КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 7 (279) ◂ 17 лютага ◂ 2012 г.
www.novychas.org

# Новы Час



ЮРЫ ЧЫГІЛЕЙЧЫК

Стар. 4

**ДАКРЫЧАЦЦА ДА ГЛУХІХ**

У Беларусі галадалі непаўнагадовыя маладафронтаўцы, экс-кандыдаты ў прэзідэнты, пенсіянеры і журналісты. Галадалі за мову, свабоду, справядлівасць

Стар. 5

**КАНЕЦ ПУЦІНЮГЕНДА**

Чаму Крэмль адмовіўся ад свайго дзіцяці, і ці значыць гэта перагляд усёй унутранай палітыкі? Пра гэта журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з маскоўскім журналістам Сяргеем Пузыровым

Стар. 13

**ВЯЛІКІ ТЭРОР**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**НЕВЯДОМАЕ АПАВЯДАННЕ ВАСІЛЯ БЫКАВА**

«Жалезны камандзір»

▸ З НАГОДЫ

## ДЗЯРЖАЎНЫ ХЛЕБ ГУБЛЯЕ СМАК

Вольга ХВОІН

**Вышэйшае кіраўніцтва краіны заклапочанае адтокам кадраў з чыноўніцкага апарату. Прэстыж дзяржаўнай службы пакрысе споўз уніз разам з заробкамі. Праца ў кабінетах дзяржструктур прыносіць не толькі фінансавыя пернікі, але і процьму абмежаванняў. Маладыя кар'ерысты часта абіраюць шлях у прыватныя структуры, дзе апроч заробку ёсць і кавалак свабоды.**




Урад прыняў пастанову, у якой прапісана скарачэнне колькасці работнікаў апарату Савету Міністраў, а таксама бонусы для спецыялістаў, што працуюць у сістэме дзяржкіравання.

Савет міністраў пастановай №1784 «Аб арганізацыі работы па рэалізацыі пілотнага праекта ў апараце Савета міністраў», накіраванага «на падвышэнне зацікаўленасці ў выніках працы і замацаванне работнікаў у апараце СМ» загадаў «да 15 лютага 2012 выпрацаваць прапановы аб аптымізацыі функцый, структуры і колькасці работнікаў апарата, для забеспячэння паступовага змяншэння да 20% колькасці яго работнікаў». Акрамя таго, пастановай прадугледжана «ўдасканаленне сістэмы стымулявання працы работнікаў апарата для забеспячэння істотнага павелічэння іх заработнай платы і замацавання высокакваліфікаваных спецыялістаў у апараце».

У прыватнасці, дакументам прадугледжваецца «накіроўваць на прэміраванне работнікаў апарата, якія з'яўляюцца дзяржаўнымі служачымі, што праявілі прафесійную ініцыятыву і забяспечваюць высокую эфектыўнасць працы, сродкі, вылучаныя з рэспубліканскага бюджэту, у памеры 5% сумы іх службовых акладаў». Таксама ў пастанове прапісана «накіроўваць на прэміраванне работнікаў, якія ажыццяўляюць тэхнічнае абслугоўванне і забяспечваюць дзейнасць апарата, сродкі ў памеры 50% сумы іх акладаў».

На пачатку студзеня міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна паведаміла, што ў краіне ёсць праблема — дэфіцыт работнікаў, у тым ліку на кіраўнічых пасадах, у прафесіях, дзе патрабуецца высокая кваліфікацыя. «Вядома, трэба зацікавіць чалавека працаваць тут, але гэта павінна быць комплексна, — заўважыла Шчоткіна. — Ёсць Саюзная дзяржава, ёсць АЭП, а гэта адкрытыя мяжы... Чалавек заўсёды выбірае там, дзе лепш». Міністр мяркуе, што заробак і сацпакет — гэта адны з асноўных умоваў для ўтрымання персаналу. Але «чалавек павінен зарабляць сваю зарплату, а не атрымліваць заробак», — падкрэсліла Мар'яна Шчоткіна.

Які заробак прапануюць дробным чыноўнікам? На сайце Мінпрацы ў раздзеле вакансій у лютым гэтага года галоўнаму спецыялісту аддзела па справах моладзі райвыканкама, пажадана са стажам дзяржслужбы і вышэйшай адукацыяй, прапануюць 1,5 мільёна беларускіх рублёў, у Дзяржынскі райвыканкам патрабуецца галоўны спецыяліст у аддзел ЖКГ, ён можа разлічваць на адзін мільён рублёў заробку, падатковы інспектар са стажам не менш двух гадоў працы і эканамічнай адукацыяй атрымае таксама адзін мільён беларускіх рублёў. Дарэчы, міністр Мар'яна Шчоткіна распавяла, што «найбольшая складанасць па зарплатах назіраецца ў пасялковых выканаўчых камітэтах. У цэлым па дзяржорганах мы зараз праводзілі маніторынг. Вакансіі там — каля 2%. Гэта параўнальна няшмат».

Канешне ж, заробкі чыноўнікаў індэксуюцца, але вынікам яны не заўжды задаволеныя. «Калі работнік прадпрыемства можа папрасіць дадатак да зарплаты ў працадаўцы, то заробак дзяржслужачых якраз рэгулююцца пастановамі. Яны не залежаць ні ад колькасці працы, ні ад прынесенай бюджэту карысці», — дзеліцца досведам дзяржаўнага хлебу чыноўнік сярэдняга рангу.

Цікава, што спачування ў сувязі з падзеннем заробку, які прывязаны да тарыфнай сеткі, а не курсу долара, чыноўнікі з боку сваіх суайчыннікаў не чуюць. «Менавіта чыноўнікі, кожны на сваім месцы ў высокім крэсле або на прыстаўной табурэтцы, працавалі на выбарах, змагаліся з непажаданымі, малявалі статыстычныя справаздачы, выступалі ў СМІ, масцілі добрымі намерамі дарогу ў цэнтр Еўропы, клалі саломку, кавалі перамогу ў бітве з ураджаем і здзяйснялі шмат іншых падобных спраў. Ды аддасца кожнаму па справах яго!» — піша адзін з наведвальнікаў форуму, дзе акурат абмяркоўваецца нялёгкая доля слугі дзяржавы.

Атрымліваецца, што за гады адданай працы работнікі дзяржапарату атрымалі не толькі стабільны прыбытак, але і крыўду, злосць за ўсе праблемы, што займелі грамадзяне краіны пры патуранні моцнай вертыкалі. Да таго ж чыноўнікі і іх сем'і, блізкія сваякі, што пражываюць сумесна, патрапляюць пад новаўвядзенні, што прадугледжваюць пашыраную дэкларацыю прыбыткаў. Такі абавязак не надта прыемны, напрыклад, для тых, хто займаецца бізнэсам.

Разам з тым трэба ўлічваць, што нізкія зарплаты ў супрацоўнікаў дзяржапарату — гэта не толькі нагода для зласлівасці знаёмых, але і матывацыя для росту карупцыі ці звальнення сапраўды кваліфікаваных спецыялістаў, якія разумеюць, што ў іншым месцы можна атрымаць годную аплату сваёй працы. Атрымліваецца, што апроч падвышэння тарыфных ставак і прэмій мусіць быць сістэма справаздачнасці за вынік работы і разуменне сацыяльнай адказнасці. У адваротным выпадку слуга дзяржавы без згрызотаў сумлення зменіць дзяржаву на іншую, як толькі скончацца разліковыя банкноты ў касе ўстановы з гербам над дзвярыма.

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ



## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### РАГАЧОЎ. ДАШКЕВІЧА ПЕРАСЛЕДУЮЦЬ

**Раніцай 14 лютага актывіста партыі БХД з Рагачова Дзяніса Дашкевіча пад прымусам прывезлі ў мясцовы райаддзел міліцыі, дзе ўручылі позву — з'явіцца ў РАУС аб 11 гадзіне.**

Пра вынікі размовы Дзяніс Дашкевіч паведаміў «Свабодзе», калі праз дзве гадзіны выйшаў з РАУС.

«Выклікалі мяне нібыта ў якасці сведкі, але так і не сказалі, сведкам чаго я з'яўляюся. Затое папярэдзілі, што могуць завесці супраць мяне крымінальную справу. Маўляў, ёсць на мяне ажно 4 заявы. Толькі яшчэ выбіраюць, па якім артыкуле заводзіць справу: за паклёп на прадстаўніка ўлады ці за тое, што нібыта краду «інфармацыю ў мясцовай раёнцы», — паведаміў Дзяніс Дашкевіч.

Актывіст звязвае свой выклік у РАУС і затрыманне з дзейнасцю мясцовага грамадска-палітычнага навінавага сайту http://vrogacheve.ru/. Паводле Дашкевіча, сайт, хоць і ўзнік не так даўно, стаў самым папулярным рэсурсам навінаў у Рагачове. Яго наведвальнасць — каля 400 чалавек за дзень супраць 80–90 наведвальнікаў сайту праўладнай раённай газеты «Свабоднае слова». На сайце неаднаразова ўздымаліся мясцовыя праблемы (з транспартам, ЖКГ і іншым), крытыкаваліся дзеянні ўладаў. У міліцыі Дзяніс Дашкевіч адмовіў, што рэдагуе гэты сайт, але прызнаў, што ён адзін з аглядальнікаў мясцовых падзей.

**Паводле інфармацыі БАЖ**

### ГОМЕЛЬ. ЖЫЦЦЁ БЕЗ АЛКАГОЛЮ

**Грамадскія актывісты Маладога фронту разам з сябрамі з кааліцыі «Наша альтэрнатыва» і актывістамі з іншых арганізацый правялі акцыю на дзень закаханых.**

Падчас акцыі актывісты раздавалі ўлёткі з тэкстам «Хопіць бухаць — час кахаць». Акцыя прайшла ў межах кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць». Мерапрыемства адбылося ў цэнтры горада і прайшло без затрыманняў. Хаця супрацоўнікі міліцыі ўсё ж пацікавіліся фарматам акцыі і нават атрымалі асобнікі ўлётак.

«Мы раздалі каля дзвюх тысяч улётак мінакам. Мерапрыемства доўжылася каля дзвюх з паловаў гадзін. Мы раздавалі ўлёткі каля буйнейшых установаў, у тым ліку і ВНУ. Канешне, не абышлося без увагі міліцыі. Падчас мерапрыемства да нас падышлі тры супрацоўнікі міліцыі, ветліва прадставіліся, потым папрасілі мае дакументы, сказалі : «Дайте, пожалуйста, ваши документы. По кражам проверить». Пасля таго, як яны перапісалі мае дадзеныя, кудысьці патэлефанавалі і сказалі што мы можам ісці. Мы падаравалі ім улёткі і пайшлі раздаваць іх далей», — распавёў Андрусь Цянюта.

**Паводле mfront.net**

### ГРОДНА. «ПАГОНЯ» — НЕ ПАРУШЭННЕ

**Упраўленне ўнутраных справаў Гродзенскага аблвыканкама прызнала, што ў размяшчэнні ў аўтамабілі налепак з выявай «Пагоні» адсутнічае факт парушэння.**

Мінулым летам гродзенца Руслана Пяцько выклікалі з працы супрацоўнікі ДАІ нібыта за няправільную паркоўку. На месцы аказалася, што выяву герба «Пагоня» на шкле аўтамабіля яны лічаць парушэннем. У выніку налепка была канфіскаваная міліцыяй.

Толькі зараз Руслан Пяцько атрымаў ліст з УУС, у якім паведамляецца, што праверка спыненая і налепку можна забраць. Гэтае рашэнне яе ўладальнік збіраецца вазіць з сабой, на выпадак будучых праверак.

**Паводле harodniaspring.org**

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ІВАНУ ШЫЛУ ДАЛІ 20 СУТАК

**Генадзь КЕСНЕР**

**Намеснік старшыні зарэгістраванай у Чэхіі міжнароднай моладзевай арганізацыі «Малады фронт» Іван Шыла апынуўся ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў ГУУС Мінгарвыканкаму ў завулку Акрэсціна ў Мінску. У вядомай «палітычнай турме» маладафронтавец правядзе агулам ажно дваццаць сутак.**



Як распавяла ў інтэв'ю «Новаму часу» намесніца старшыні «Маладога фронту» Наста Палажанка, Івана Шылу затрымалі спецназаўцы 14 лютага, калі актывіст выйшаў з пад'езду дома, дзе месціцца Беларускі ПЭН-цэнтр. Менавіта там у гэты дзень адбывалася ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў прэміі «Люблю Беларусь», заснаванай «Маладым фронтам» у 2010 годзе. Хлопца адвялі ў службовы мікрааўтобус і адвезлі ў акрэсцінскую турму.

Але, па словах Насты Палажанкі, цяперашняе затрыманне аднаго з лідараў МФ ніяк не было звязана з урачыстасцю. «Бацькі Івана і мы пазней даведаліся, што яго затрыманне звязана з так званай «сутачнай запазычанасцю» пасля ягонага арышту падчас акцыі салідарнасці са Зміцерам Дашкевічам, якая адбывалася каля сцен Горацкай калоніі ўлетку мінулага года. 7 верасня 2011 года суд Горацкага раёна завочна прыгаварыў Івана Шылу (актывіст атрымлівае вышэйшую адукацыю ў Польшчы і на момант суда знаходзіўся па-за межамі Беларусі — заўвага Г. К.) да дваццаці сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаванай акцыі і за непадпарадкаванне патрабаванням міліцыі. То бок, на яго былі складзены два адміністрацыйныя пратаколы, таму і атрымалася дваццаць сутак агулам. Тады цэлы шэраг актывістаў атрымалі ад дзесяці да сямнаццаці сутак арышту. Так што Івану засталося сядзець яшчэ дзевятнаццаць дзён», — паведаміла Наста Палажанка.

Іван Шыла з'яўляецца своеасаблівым рэкардсменам па затрыманнях, арыштах і штрафах. Актывіст «Маладога фронту» з Салігорска затрымліваўся праваахоўнымі органамі больш за восемдзесят разоў, а сума штрафаў, накладзеных судамі на актывіста за яго палітычную дзейнасць, вылічваецца ўжо мільёнамі беларускіх рублёў.

# ПЕРАТРУС У КВАТЭРЫ МОЛАДЗЕВАГА АКТЫВІСТА

**Генадзь КЕСНЕР**

**Увечары 15 лютага ў кватэры актывіста дэмакратычнага моладзевага руху Яраслава Грышчэні адбыўсяператрус.**

Перад гэтым маладзёна і яшчэ некалькі чалавек невядомыя ў цывільным жорстка збілі каля пад'езда дома, дзе Яраслаў Грышчэня з сябрамі здымаюць кватэру. Пацярпелыя ад дзеянняў, як потым высветлілася, супрацоўнікаў праваахоўных органаў маюць намер звярнуцца ў суд.

Як распавёў «Новаму часу» Яраслаў Грышчэня, усё адбылося вельмі нечакана:

— Мы ўвечары вярталіся дадому, дзе меліся адсвяткаваць дзень нараджэння сяброўкі, якая прыехала з Санкт-Пецярбурга. Каля нашага пад'езду стаяў мінівэн «Крайслер» без нумароў з таніроўкай. Я яшчэ пажартаваў: глядзіце, можа за намі. Праходзім міма «Крайслера», а з яго выскокваюць нейкія хлопцы і тупа пачынаюць нас лупіць, і толькі потым высвятляецца, што гэта міліцыя. Потым нас скруцілі, завялі ў пад'езд, дзе працягнулі «экшн». Маім жа ключом яны адчынілі дзверы, зайшлі ў кватэру. Запыталіся, ці ёсць у нас наркотыкі, зброя. Я адказаў, што нічога такога тут няма, пасля чаго зноў атрымаў некалькі ўдараў. Яны перашманалі ўсе пакоі, але ніякай зброі і ніякіх наркотыкаў не знайшлі, але знайшлі старыя ўлёткі. Тут жа прыехалі чэкісты, усіх арыштавалі — мяне, Зміцера Калача, Ганну Салаўёву, а таксама некалькіх хлопцаў з грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» — і адвезлі ў РУУС Савецкага раёна. Яны заявілі нам, што ў іх была інфармацыя, быццам бы ў нашай кватэры прадаюцца наркотыкі. Дарэчы, апроч старых улётак, з кватэры забралі значкі, стужкі для здымача з Плошчы 2011 года, а таксама ўсялякія архіўныя матэрыялы з 2006 года, расцяжкі яшчэ руху «Зубр», які даўно не існуе, а таксама шмат бел-чырвона-белых сцягоў. Дарэчы, ніякай пастановы аб правядзенні ператрусу нам не прад'явілі, увогуле ніякіх дакументаў нам не паказалі. У кватэру ўвайшлі нейкія бугаі, якія проста білі ў твар за кожнае пытанне і працягвалі рабіць сваю справу. Мы будзем дабівацца пакарання тых, хто гэта зрабіў.

## ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# НАСТУ ШУЛЕЙКУ АДЛІЧЫЛІ З УНІВЕРСІТЭТА

**Мікіта БРОЎКА**

**Дзяўчыну, што ўзяла на сябе арганізацыю падтрымкі вязняў Акрэсціна пасля апошніх масавых затрыманняў на акцыі салідарнасці з палітвязнямі, адлічылі з другога курса Інстытута журналістыкі БДУ.**

Гэту інфармацыю карэспандэнту «НЧ» пацвердзілі ў дэканаце дзённага аддзялення, на якім вучылася Наста. Па словах супрацоўніцы дэканата, Наста была адлічана згодна з загадам №34 ад 7 лютага за «непаспяховасць» — у яе не былі здадзены экзамены і залікі. Але сама Наста даведалася пра гэта толькі 14 лютага, патэлефанаваўшы ў дэканат, — адміністрацыя Інстытута журналістыкі вырашыла нават не паведамляць ёй пра адлічэнне.

За апошні час Насту затрымлівалі тройчы: 26 лістапада за банер у падтрымку Алеся Бяляцкага, 19 снежня — на акцыі салідарнасці каля Чырвонага касцёла, а 31 снежня яе затрымалі наўпрост каля Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў на Акрэсціна — там яна чакала свайго сябра, які павінен быў выйсці на свабоду. Новы год Наста сустрэла на Акрэсціна, а 2 студзеня суд прызнаў яе вінаватай у дробным хуліганстве і пакараў штрафам. Незадоўга да гэтага, 31 снежня, невядомыя людзі ў цывільным шукалі яе па месцы прапіскі.

## ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# ЯНЫ ВАС ЧАКАЮЦЬ!

### Ладушка — добры сабачка-піражок

Дзіўная бабуля — калекцыянерка жывёл трымала Ладу ў сутарэнні. Без прагулак і сонечнага святла сабака стаў падобным на круглы піражок.



Зараз Лада жыве ў валанцёра прытулку «СуперПёс». Яна вельмі хутка прызвычайваецца да людзей, за добрае стаўленне гатовая плаціць бясконцай аддансцю і шчырым сяброўствам. Праўда, канкурэнтаў — іншых жывёлаў — не вельмі шануе. Затое добра ладзіць з дзецьмі. Зараз Лада на дыеце, рыхтуецца да стэрылізацыі. Нягледзячы на лішнія кілаграмы, скача як козачка. А яшчэ не развучылася радавацца як шчаня. Калі вы шукаеце добрага, ласкавага і мудрага сабаку — знаёмцеся з Ладай!

8-029-7755753 Анастасія

### Гек — гонар прытулку «СуперКот»

Гека забралі з пункту адлову. Вялізны чорны прыгажун паддаецца дрэсіроўцы і ўжо ведае каманду «месца». Гэта кот з



інтэлектам і ўласным стылем, вельмі любіць быць побач з чалавекам, цікавіцца ягонымі справамі і рабіць нешта разам. Калі пазнаёмішся з гэтым катом, дакладна,ніколі яго не забудзеш. Гек цалкам гатовы да прыстройства ў новую сям'ю: кастрыраваны і прызвычаены да латку. Гек — кот для тых, хто імкнецца да дасканаласці.

8-044-7224009,
8-029-5082624 Алена;
8-029 1999915 Юлія.

Болей жывёл у каталогах на форуме http://forum.superkot.com/

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# ЦЯГНІК, СТОЙ, РАЗ-ДВА!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Сітуацыю з перамогай на «Еўрафэсце» і з вызначэннем, хто паедзе ад Беларусі на «Еўрабачанне–2012» можна параўнаць альбо з беларускімі прэзідэнцкімі выбарамі, альбо са старым анекдотам, калі генерал загадвае сяржанту: «Сяржант, спыніце цягнік!» — «Цягнік, стой, раз-два!» — кажа сяржант.**



Заключны этап нацыянальнага адбору трансляваўся ў прамым эфіры каналаў «Беларусь 1», «Беларусь ТВ», на радыё «Радыус FM», а таксама на афіцыйным сайце «Еўрабачання».

Пераможца вызначыўся шляхам падсумоўвання вынікаў галасавання тэлегледачоў і прафесійнага журы. Пасля жывых выступленняў канкурсантаў гледачам і журы было дадзена 15 хвілін на галасаванне. У прамым эфіры былі абвешчаны ўжо падсумаваныя галасы. Большасць, як абʼявілі вядучыя фіналу Дзяніс Курʼян і Лейла Ісмаілава, выбрала рамантычную баладу «All my life» у выкананні Алены Ланской.

На другім месцы аказаўся гурт «Litesound» з песняй «We are the heroes», на трэцім — Гюнеш з песняй «Tell me why», на чацвёртым — Вікторыя Алешка з кампазіцыяй «Dream», на пятым — Юзары, які выканаў «The winner».

Гурт «Litesound» і Гюнеш нават не пажадалі атрымліваць суцяшальныя призы. Бо менавіта яны лічыліся сярод фаварытаў адбору на «Еўрабачанне». І, па рэакцыі залі, яны спявалі значна лепш, чым Ланская. Але на Ланскую спрацаваў «адміністрацыйны рэсурс».

У інтэрнэце ўжо зʼявіліся фоты цыркуляраў, напрыклад, аддзелу адукацыі Аршанскага райвыканкаму з патрабаваннем арганізаваць sms-галасаванне ў падтрымку Ланской. Упраўленне культуры Віцебскага аблвыканкама заклікала падведамасныя арганізацыі размясціць візітную картку Алены Ланской «на рэкламных шчытах і стэндах ва ўсіх установах культуры, а таксама размножыць і распаўсюдзіць сярод моладзевай аўдыторыі і творчых работнікаў». Аналагічныя «просьбы» аб «спрыянні» распаўсюджваліся ў Бабруйску і Магілёве.

Чаму ўсё ж Ланская? Кажуць, што падчас выступу на «Славянскім базары» яна спадабалася асабіста Аляксандру Лукашэнку. Маладой спявачцы нават прысвоілі высокае званне заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь.

Гасподзь з імі, мы ўсе ведаем, як у Беларусі адбываецца любое галасаванне. Але ж Ланская будзе прадстаўляць Беларусь на «Еўрабачанні» не ў Мінску, а ў Баку. І там не загадаеш: «Цягнік, стой, раз-два!», і цыркуляры з абавязковым галасаваннем за Ланскую не разашлеш. І калі нехта потым зноў будзе енчыць, што «беларуску засудзілі, палітычна матываванае рашэнне, таму што яна беларуска і пяе пра Беларусь», і гэтак далей, варта будзе яму ўзгадаць, якім чынам Ланская атрымала перамогу.

Дарэчы, на месцы арганізатараў «Еўрабачання» я б адсочваў працэс выбару кандыдатаў на ўдзел у конкурсе, і, у дадзеным выпадку, патрабаваў бы перагляду вынікаў. Сапраўды, «Еўрабачанне» ж было ад пачатку найперш конкурсам маладых выканаўцаў. А калі на гэты конкурс едзе заслужаная артыстка Беларусі — гэта не справа.

Але, зноў жа, Гасподзь з імі, з гламурнымі спевакамі ды спявачкамі. Пасля паўлітра ў добрай кампаніі кожны сам сабе спявак. Але вось пастраляць выпадае не кожнаму.

У апазіцыі дагэтуль ідзе сварка вакол прапановы адмяніць санкцыі ў адносінах да Беларусі з боку Еўрасаюза. Тых, хто выступае за змякчэнне санкцый, называюць агентамі КДБ ды здраднікамі. Апошнія агрызаюцца: маўляў, санкцыі нічога не даюць, і яны бесперспектыўныя. Але, як паказваюць апошнія падзеі — перспектыўныя. І бʼюць у самае балючае месца беларускага правадыра — у спорт.

Беларуская зборная па біятлоне застаецца без патронаў. Улады Германіі не даюць дазволу на экспарт патронаў у Беларусь. На гэта наракаюць беларускія дзяржаўныя СМІ. Па іх інфармацыі, беларускі бок яшчэ 20 снежня 2011 года зрабіў перадаплату ў памеры 34 тысяч еўра.

Старшыня дырэктарата нацыянальных каманд Міністэрства спорту і турызму Беларусі Андрэй Фомачкін абяцае, што неабходны запас патронаў для падрыхтоўкі і выступу на чэмпіянаце свету ў германскім Рупольдынгу і на этапе Кубка свету ў Ханты-Мансійску для нацыянальнай каманды маецца. Аднак замоўленыя ў «Lapua» патроны выраблены персанальна для стваловў кожнага члена каманды, і дакладнасць пры выкарыстанні іншых боепрыпасаў скарачаецца на 3–5%.

Еўрасаюз увёў эмбарга на пастаўку ўзбраенняў і вайсковай тэхнікі з Еўрасаюза ў Беларусь як дыктатарскую краіну. Нямеччына займае асабліва прынцыповую пазіцыю ў гэтым пытанні.

Вось такія санкцыі. Засталося толькі забараніць беларускім біятланістам продаж стрэльбаў, і тады яны будуць бегаць па трасе з «Калашнікавымі». Цікава было б пагладзець на такое відовішча!

Таму беларускім уладам нічога не засталося, каб кінуцца па падтрымку да сябраў па Мытным саюзе. Урад Беларусі просіць партнёраў па Адзінай эканамічнай прасторы (АЭП) выпрацаваць кансалідаваную пазіцыю па пытанні санкцый у дачыненні да Беларусі з боку ЕС і ЗША. Ліст з такой просьбай накіраваў віцэ-прэмʼер Сяргей Румас старшыні Еўразійскай эканамічнай камісіі (ЕЭК) Віктару Хрысценку. Румас прапануе разгледзець гэта пытанне на чарговым пасяджэнні савета ЕЭК.

У Еўразійскай эканамічнай камісіі ліст з Мінска пакуль не атрымлівалі, паведаміў прадстаўнік калегіі ЕЭК Станіслаў Зуеў. Паводле яго слоў, найбліжэйшае пасяджэнне савета ЕЭК павінна прайсці ў Маскве 22 лютага.

Варта адзначыць, што Саветам ЕЭК кіруе сам Румас. То бок, ён напісаў ліст, можна лічыць, сам сабе.

Ва ўрадах РФ і Казахстана сітуацыю не каментуюць. Эксперты ж перакананыя, што калі саюзнікі па АЭП і акажуць Беларусі падтрымку, то яна будзе выключна вербальнай. «У рэальную сварку з кімсьці на Захадзе з-за Лукашэнкі лідары Расіі і Казахстана лезці не будуць», — лічыць галоўны аналітык беларускага Інстытута стратэгічных даследаванняў Дзяніс Мельянцоў. З ім згодная і экс-дэпутат беларускага парламента, палітолаг Вольга Абрамава. «Няўжо ў адказ на тое, што Лукашэнка не можа атрымаць амерыканскую візу, Расія забароніць уезд на сваю тэрыторыю Бараку Абаму ці нейкаму еўрапейскаму лідару?» — кажа яна.

Так што Мінск можа разлічваць толькі на спачувальныя заявы з Масквы і Астаны. І тут таксама не загадаеш: «Цягнік, стой, раз-два!»

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### РАМАН ГРЫБ



Пінскі школьнік Раман Грыб стаў майстрам міжнароднай федэрацыі шахмат (FIDE). Гэты тытул прысуджаецца па рэйтынгу вынікаў выступаў за некалькі гадоў і пацвярджае сённяшні ўзровень спартсмена. Такога дасягнення няма ні ў аднаго пінскага шахматыста, больш за тое, яго можна назваць унікальным. Бо майстру FIDE ўсяго 15 гадоў.

Раман з дзесяці гадоў прымае ўдзел у дарослых спаборніцтвах, у 12 гадоў стаў чэмпіёнам Пінска і да гэтага часу нікому не саступіў лідарства. Па выніках нядаўняга выступу ў вышэйшай лізе чэмпіянату Беларусі Раман Грыб уваходзіць у дзясятку наймацнейшых шахматыстаў краіны. Сурʼёзна шахматамі Раман пачаў займацца з сямі гадоў. Прычым калі аднакласнікі па СШ №12 адгукнуліся на запрашэнне наведваць шахматны гуртою у суседняй ДЮСШ №2, ён не надаў гэтаму значэння. А праз некаторы час звярнуў увагу, што аднагодкі, якія там навучаліся, пачынаюць яго перамагаць, і тады сам пайшоў запісвацца ў спартыўную школу.

Раман Грыб цяпер трэніруецца ў Леаніда Ліндарэнкі. «Характар яго гульні вызначаецца напорыстасць і бескампраміснасць. Моцная якасць заключаецца ў тым, што ён умее добра абараняцца, нярэдка знаходзіць скрытыя рэзервы для выратавання цяжкіх пазіцый», — цытуе «Пінскі веснік» настаўніка таленавітага шахматыста.

### МІХАІЛ МЯСНІКОВІЧ



Прэмʼер-міністр Міхаіл Мяснковіч заклапочаны падрыхтоўкай да веснавых палявых работ. І калі хто скажа, што не пра сяўбу варта думаць другому чалавеку дзяржавы, той проста не ведае тактыкі і стратэгіі беларускай «бітвы за ўраджай»!

На думку Мясніковіча, падрыхтоўка да пасяўной кампаніі ў краіне вядзецца недастаткова якасна. Кіраўнік урада нагадаў, што абʼёмы фінансавання сельгасработ, канкрэтныя заданні вызначаны ў пастанове Саўміна ад 17 снежня 2011 года № 1696. Мінсельгасхарчу і аблвыканкамам дадзены канкрэтныя інструменты для іх дасягнення, аднак імі ў дастатковай ступені не карыстаюцца. У сувязі з гэтым Міхаіл Мясніковіч звярнуў увагу на важнасць двух асноўных пытанняў для паспяховага правядзення пасяўной — своечасовае забеспячэнне неабходнага абʼёму фінансавання і праца з кадрамі.

Асаблівую ўвагу прэмʼер-міністр звярнуў на перспектывы развіцця ільногаліны ў Беларусі. Прынята рашэнне аб выдзяленні ў гэтым годзе на мадэрнізацыю ільнозаводаў каля 450 мільярдаў рублёў. Мясніковіч запатрабаваў забяспечыць работу па перапрацоўцы лёну на высокім узроўні на ільнозаводах у Пружанах, Дуброўна, Шклове.

Кіраўнік урада таксама даручыў сфармаваць спіс службовых асоб, адказных за выкананне заданняў па асноўных сельгаскультурах.

Грунтоўнасці намеру арганізаваць веснавыя палявыя працы мусіць надаць Камітэт дзяржкантролю. Прэмʼер папрасіў спецыялістаў з гэтай установы праверыць, як ідзе падрыхтоўка ў гаспадарках насення да веснавой сяўбы, перш за ўсё бульбы. «У мінулым годзе мы шукалі насенне бульбы для Віцебскай вобласці і так і не знайшлі пад поўную патрэбнасць», — канстатаваў Міхаіл Мясніковіч.

### АЛЯКСЕЙ ІВАНОЎ




Не атэставаны ў зборную беларускі лыжнік выйграў марафонскую гонку, піша «Прэсбол». У французскім Ламура-Мут прайшла 76-кіламетровая лыжная марафонская гонка сярод мужчын. Перамогу атрымаў беларус Аляксей Іваноў. Другое і трэцяе месцы за Сэрджыа Банальдзі (Італія) і Фларыянам Костнерам (Італія), на чацвёртым месцы Марцін Коўкал (Чэхія).

Пасля Алімпіяды ў Ванкуверы Іванова не атэставалі ў нацыянальную каманду. Цяпер беларускі лыжнік выступае за аўстрыйскую зборную «Skinfit Racing», дзе мае кантракт з чыста сімвалічнай зарплатай. Каманда фінансуе паездкі на зборы і спаборніцтвы, а ў паўзе паміж імі здымае Іванову пакой у мястэчку Рамзаў. У мінулым сезоне ў складзе «Skinfit Racing», акрамя беларуса, былі толькі аўстрыйскія спартсмены. У гэтым годзе каманда стала больш інтэрнацыянальнай: у яе, у прыватнасці, уліўся чэмпіён свету, прызёр Алімпійскіх гульняў у Ванкуверы Марцін Коўкал з Чэхіі.

Большую частку трэніровачных збораў каманда праводзіць у Заходняй Еўропе. У снежні ў Італіі праходзіў першы кубкавы марафон, а з другой нядзелі студзеня амаль кожны тыдзень новы старт.

▸ ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЮРЫ ЧЫГІЛЕЙЧЫК ЗБІТЫ І СКАЛЕЧАНЫ

Таццяна ШАПУЦЬКА

**На чарговым штотыднёвым пасяджэнні каардынацыйнай групы «За Волю», у якую ўваходзяць сваякі палітвязняў ды грамадскія актывісты, разглядалася пытанне асвятлення праблемаў палітвязняў у незалежных СМІ ды асобы зняволеных Аляксандра Крутога, Юрыя Чыгілейчыка і Аляксандра Малчанава.**

Паводле сваякоў зняволеных, у незалежных друкаваных СМІ надаецца мала ўвагі палітвязням. Гаворка ідзе менавіта пра газеты, якія трапляюць у турмы і якія могуць чытаць як уласна палітвязні, так і іншыя зэкі. Былы палітвязень, дырэктар «Платформы» Андрэй Бандарэнка згадаў, як падчас адсідкі яму дапамагалі незалежныя газеты: «У перыяд, калі мы чакалі вынікаў абскарджвання прысуду — гэта паўтара месяца — навінаў у мяне фактычна не было, газеты пра мяне не ўзгадвалі. Ужо пачыналі падыходзіць зэкі і пасміхацца — маўляў, забыліся на цябе, будзеш адседжваць свае сем гадоў з канфіскацыяй. Калі ўжо разглядзелі нашу скаргу, пра гэта напісалі ў газетах. І зэкі, і адміністрацыя пачалі ставіцца зусім іначай, перасталі чапаць».

Аляксандр Дзядок, бацька зняволенага анархіста Мікалая Дзядка, звярнуў увагу прысутных журналістаў на недахоп грунтоўных матэрыялаў пра палітвязняў. Ён прывёў у прыклад крымінальную справу «анархістаў», па якой быў асуджаны і яго сын — маўляў, нават у «сваёй тусоўцы» мала хто ведае, за што ўласна асудзілі анархістаў, якія доказы і абвяржэнні былі прадстаўленыя пракурорамі і адвакатамі. З-за гэтага няведання ў дэмакратычным асяродку (а што ўжо казаць пра звычайных чытачоў!) узнікае стаўленне да анархістаў як да «недапалітвязняў».

Прысутныя журналісты акрэслілі сваё бачанне — якаснаму асвятленню праблемаў палітвязняў замінаюць як малыя газетныя плошчы ды рэдакцыйная палітыка, так і расканцэнтраванасць навінаў — няпроста штодня трымаць сувязь з двума дзясяткамі сваякоў палітвязняў. Медыйшчыкі прапанавалі грамадскім актывістам стварыць своеасаблівы інфармацыйны цэнтр — прызначыць некалькі чалавек, да якіх бы сцякалася самая свежая інфармацыя пра ўсіх палітвязняў, і да якіх маглі б вольна звяртацца журналісты.

Удзельнікі круглага стала прысвяцілі асаблівую ўвагу зняволеным Крутому, Малчанаву ды Чыгілейчыку. Калі пра першых двух вязняў навіны час ад часу з'яўляюцца, за іх лёсам сочыць



Юры Чыгілейчык

грамадскасць і праваабаронцы, дык імя Юрыя Чыгілейчыка мала каму знаёмае.

А ведаць гэтае імя варта — без перабольшанняў Юры Чыгілейчык ахвяраваў сваім здароўем і свабодай, дапамагаючы экскандыдату ў прэзідэнты Андрэю Саннікаву і старшыні «Маладога Фронту» Змітру Дашкевічу. Гісторыю Чыгілейчыка распавёў ягоны паплечнік па «Платформе» Андрэй Бандарэнка.

«Калі вы памятаеце, напачатку ліпеня мы атрымалі інфармацыю з Глыбоцкай калоніі наконт збіцця вязняў, — распавёў Андрэй. — Пры дапамозе Юры, які ў маі вызваліўся з Глыбоцкай калоніі (адбываў тэрмін за махлярства — Т.Ш.), мы знайшлі не толькі саміх вязняў, але і іх матуль. Мы правялі гучную прэс-канферэнцыю, Генпракуратура зладзіла шырокае расследаванне, былі наступствы для калоніі. Пасля Юра дапамагаў атрымоўваць і правяраць інфармацыю па збіцці вязняў у Івацэвіцкай калоніі. Зараз і ў Івацэвічах, і ў Глыбокім усё больш-менш супакоілася. Яны (адміністрацыя — Т.Ш.), канешне, гавораць вязням — пачакайце, няхай усё суцішыцца, «Платформу» зачыняць, мы з вамі разбярэмся, але, як мы бачым, гэта дало свае вынікі. Тады ўжо былі спробы ціснуць на Юру — яго выклікалі ў РУУС і проста размаўлялі з ім — маўляў, нашто гэта табе трэба. Калі пачаліся праблемы ў Дашкевіча і Саннікава, было відавочна, што гэта спроба справакаваць, дыскрэдытаваць іх з дапамогаю г.зв. «злачынных паняткаў», якіх прытрымліваюцца на зоне. Праблемы ўзмацняліся тым, што многія асуджаныя на зоне цалкам адэкватныя людзі, але яны вымушаны выконваць гэтыя законы, бо іх парушэнне абяцала даволі сур'ёзныя наступствы для іх саміх. Дзякуючы Юру, гэтыя праблемы фактычна вырашыліся ў Андрэя Саннікава. Як толькі мы ўсталявалі шчыльныя сувязі з Бабруйскай калоніяй, дамовіліся, каб тамтэйшыя зэкі не чапалі Саннікава, яго этапавалі з Бабруйска ў Віцебск. Мы ўжо былі, так бы мовіць, на стадыі завяршэння дапамогі Змітру Дашкевічу, як пачаліся абсалютна не зразумелыя рэчы».

Паводле Андрэя Бандарэнкі, напачатку Чыгілейчыка проста некалькі разоў затрымлівалі і цэлыя суткі трымалі ў РУУС. «Ён прыходзіў увесь дрыготкі. Я быў вельмі здзіўлены, калі бачыў у такім стане дарослага мужчыну, які ўжо столькі ўсяго пабачыў у жыцці. Ён казаў: «Андрэй, мяне пасадзяць. Мне абяцаюць падкінуць наркотыкі». На жаль, я ставіўся да гэтага не настолькі сур'ёзна, як варта было», — шкадуе Андрэй Бандарэнка.

Пасля гэтага адбылася яшчэ адна дзіўная сітуацыя — Юрыя Чыгілейчыка на машыне Андрэя Бандарэнкі затрымалі супрацоўнікі Рэспубліканскага аддзела па барацьбе са злачыннасцю (АБЗ), машыну абшукалі, нічога не знайшлі. Юры паспеў патэлефанаваць і распавесці пра затрыманне Бандарэнку, пасля чаго АБЗаўцы сказалі: «Гэта быў халасты стрэл. Наступны раз мы не прамахнёмся». Паводле Андрэя Бандарэнкі, пасля гэтага Чыгілейчыка выклікалі ў крымінальны вышук, дзе яму сказалі, што ёсць інфармацыя, што яго павінны затрымаць і збіць.

Абяцанні міліцыянтаў спраўдзіліся.

«Мы з ім бачыліся за некалькі гадзінаў да яго затрымання 27 лістапада — я пакінуў грошы на рамонт машыны. Яго арыштавалі быццам бы на кватэры, дзе ён быццам бы набываў наркотыкі. Абсурднасць сітуацыі ў тым, што іншых грошай у Юры наўпрост не было,у яго былі выключна мае грошы, якія пасля цалкам вярнулі ягонай маці. Ён не патраціў ні рубля. Мы знайшлі людзей, якія былі сведкамі затрымання Юры. Паводле іх словаў, яны ўсе разам выходзілі з кватэры, калі да іх падбег знаёмы і сказаў, што ў двары вельмі шмат міліцыі. Юра не захацеў вяртацца ў кватэру — маўляў, мы не робім анічога супрацьзаконнага і таму можам спакойна ісці далей. Як распавядаў удзельнік гэтых падзеяў, калі яны выйшлі з пад'езда, яго самога моцна ўдарылі ў твар, былі чутны нейкія хлапкі і крыкі Юры: «Не бейце». Калі той чалавек расплюшчыў вочы, ён пабачыў вялізную колькасць людзей у масках, якія мітусіліся і крычалі: «Хутчэй абшуквайце». Да Юры падышоў супрацоўнік міліцыі і дастаў у яго з ботаў пакецік з белым парашком. Пазней стала вядома, што гэта наркотык — метадон. Як мы даведаліся ўжо зараз, акрамя таго, што пры вобшуку не было панятых, на гэтым пакецiку экспертыза не ўсталявала адбіткаў пальцаў Юры», — распавёў падрабязнасці Андрэй Бандарэнка.

Пры затрыманні Юрыя Чыгілейчыка збілі, ды так жорстка, што мужчыну аперыравалі не ў Рэспубліканскім турэмным шпіталі, а вывозілі ў грамадзянскі сталічны шпіталь. Паводле звестак Андрэя Бандарэнкі, зараз Юры Чыгілейчык мае праблемы з ныркамі, пячонкаю, слаба кіруе рукамі.

Праваабарончая супольнасць адмовілася ўзяць Чыгілейчыка пад сваю апеку. Андрэй Бандарэнка назваў гэта «трагедыяй нашага грамадства»: «Калі мы паспрабавалі проста намякнуць праваабаронцам на тое, што, якое б мінулае не меў Юра, без яго «Платформа» не змагла б настолькі эфектыўна ўздзейнічаць на адміністрацыі калоній, не змагла б дапамагчы Саннікаву і Дашкевічу, мне ў кулуарах сказалі — выбачай, гэта былы зэк».

Андрэй Бандарэнка прыгадаў і свой арышт, калі праваабаронцы лічылі яго звычайным махляром (Бандарэнку далі 7 гадоў з канфіскацыяй, а праз 2 гады цалкам апраўдалі — Т.Ш.): «Мне было вельмі балюча чуць пра такое стаўленне да сябе — маўляў, калі скраў, дык і сядзі. Гэтае нежаданне разабрацца ў тым, што сапраўды адбылося, нежаданне ўдзельнічаць у лёсе чалавека адштурхоўвае ад нас звычайных людзей. Яны разумеюць, што калі з імі нешта здарыцца, яны застануцца сам-насам са сваёй праблемаю».

Праз пасіўнасць праваабаронцаў удзельнікі круглага стала вырашылі супольна сустракацца з кіраўніцтвам незалежных праваабарончых структураў, патрабаваць правядзення юрыдычнай экспертызы справы Чыгілейчыка і настойваць на ўнясенні яго ў спіс палітвязняў. Як паказвае практыка, такі ціск прыводзіць да вынікаў. Не так даўно праваабаронцы адхрышчваліся і ад г.зв.«справы бабруйскіх анархістаў», але праз актыўнасць грамадскіх актывістаў ды СМІ, імёны Васьковіча, Сырамалотава і Пракапенкі з'явіліся ў апублікаваным на сайце «Вясны» афіцыйным спісе палітвязняў.

Дарэчы, Вы можаце падтрымаць Юрыя Чыгілейчыка і напісаць яму ліст па адрасе: 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# А ВЫ БЫЛІ Ў ЛАГЕРАХ ДЛЯ ПАЛІТЗНЯВОЛЕНЫХ?

Вольга ХВОІН

**Савет Еўрасаюза прыняў пастанову, што пашырае магчымасці прымянення санкцый да беларускіх фізічных і юрыдычных асоб, якія маюць дачыненне да парушэнняў асноўных правоў і свабодаў. Афіцыйны Мінск шукае заступнікаў і закідвае прынадныя ідэі, што мусяць асвятліць зласлівы вобраз апошняй дыктатуры.**




«Прынятыя папраўкі пашыраюць крытэры для прымянення абмежавальных мер і замарожвання актываў, — гаворыцца ў паведамленні прэс-службы Савета Еўрасаюза па выніках яго пасяджэння 10 лютага. — Згодна з дакументам, такія санкцыі могуць быць ужытыя да асобы, адказнай за сур'ёзныя парушэнні правоў чалавека або рэпрэсіі ў дачыненні да грамадзянскай супольнасці і палітычнай апазіцыі, а таксама асобы і прадпрыемствы, якія атрымліваюць выгаду або якія падтрымліваюць рэжым Лукашэнкі».

Пасяджэнне Савета міністраў замежных спраў ЕС запланавана на 27 лютага — там будзе разглядацца пытанне аб пашырэнні санкцый у дачыненні да беларускіх чыноўнікаў. Па неафіцыйнай інфармацыі, разглядаецца пытанне аб уключэнні ў спіс яшчэ 135 беларускіх чыноўнікаў, якім забаронены ўезд у ЕС і чые актывы павінны быць замарожаныя. Першапачаткова ў спісе было 158 імёнаў. Пасля Савет ЕС неадназоава пашыраў гэты пералік, і цяпер уезд у ЕС забаронены больш чым 200 беларускім чыноўнікам. Раней прэзідэнт Савета Еўрасаюза Херман ван Рампей заяўляў, што ЕС не адменіць санкцыі ў дачыненні да прадстаўнікоў уладаў Беларусі да таго часу, пакуль на свабоду ў краіне не будуць выпушчаныя ўсе палітычныя вязні.

З датай 27 лютага аптымісты звязваюць магчымае вызваленне хаця б некаторых палітзняволеных, якіх у спісе праваабаронца цяпер пятнаццаць. Так, сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Павел Севярынец мяркуе, што яго рыхтуюць да вызвалення. Атэстацыйная камісія камендатуры ў вёсцы Куплін Пружанскага раёна, дзе палітык адбывае «хімію», вырашыла, што палітвязень стаў на шлях выпраўлення. Праўда, Севярынец сваёй віны па-ранейшаму не прызнае.

Цікава, што ад іншых палітвязняў прыходзяць не такія аптымістычныя весткі. Напрыклад, стала вядома, што ад 30 студзеня Дзмітрыю Бандарэнку зрабілі больш жорсткімі ўмовы ўтрымання ў папраўчай калоніі Магілёва №15: яму забаронена карыстацца мыліцай, на якую ён абапіраўся пры хадзьбе, не дазволены і мяккі зручны абутак, забаронена днём ляжаць, прадпісаныя лёгкія віды работ. У той жа час жонка палітзняволенага Вольга Бандарэнка яго фізічны стан апісвае на мяжы інваліднасці — у Дзмітрыя сур'ёзныя праблемы са здароўем, у ліпені мінулага года яму была зроблена аперацыя на пазваночніку. Вольга Бандарэнка гаворыць, што ні ў яе, ні ў сваякоў іншых палітзняволеных інфармацыі аб магчымым вызваленні няма. «Гэта трэба мець сувязі з Адміністрацыяй прэзідэнта, каб ведаць, што там адбываецца. Я такіх сувязяў не маю», — заўважае жонка палітзняволенага Дзмітрыя Бандарэнкі.

Санкцыі, што, як можа падацца, хвалююць толькі сваякоў палітвязняў ды асобныя розумы ў чыноўніцкіх структурах ЕС, — насамрэч хворае месца і для беларускага кіраўніцтва. Скандал за скандалам — то невядома, адкуль інфармацыя пра «мільён ад Пефціева» таму, хто выкрасліць яго імя з чорнага спісу, то таемныя сустрэчы з перамоўнікамі ад ЕС, то просьба беларускага ўраду да партнёраў па Адзінай эканамічнай прасторы выпрацаваць кансалідаваную пазіцыю па пытанні санкцый у дачыненні Беларусі з боку ЕС і ЗША.

Відаць, у тым жа кірунку, што і заступніцтва, мусіць спрацаваць ініцыятыва, агучаная публічна кіраўніком Канстытуцыйнага суда Пятром Міклашэвічам, аб стварэнні інстытуту ўпаўнаважанага па правах чалавека. Але гаворка ідзе пра версію ўпаўнаважанага па правах чалавека, якому ў Беларусі будзе адведзеная функцыя пасярэдніка паміж грамадзянінам і Канстытуцыйным судом (грамадзяне Беларусі не маюць права наўпрост звяртацца ў КС). Як растлумачыў Міклашэвіч, у такім выпадку грамадзяне змогуць звяртацца да ўпаўнаважанага па найбольш важных пытаннях, якія закранаюць канстытуцыйныя правы і свабоды грамадзян, а ўпаўнаважаны па правах чалавека мог бы затым звяртацца ў Канстытуцыйны суд. Але ці ёсць у Беларусі суд увогуле, і чым будзе кіравацца так званы "ўпаўнаважаны" ў сваіх дзеяннях — сумленнем, інструкцыямі, загадамі?.. Пытанні, адказы на якія не мусяць ахінуць цвярозы розум туманам псеўдалібералізму.

На дэсерт тэмы прапануем меркаванне новапрызначанага дыпламата з Ізраілю, які заявіў, што не ведае пра наяўнасць у Беларусі палітвязняў. «Я — грамадзянін Ізраіля, у нас няма палітзняволеных. Што да Беларусі, то я не ведаю, мне трэба пачытаць газеты. Праз паўгода я адкажу на ваша пытанне. Я журналіст, і выдатна ведаю, як пішуцца артыкулы. Вы самі былі ў лагерах для палітзняволеных?» — цытуе БелаПАН пасла Ізраіля ў Беларусі. Калі ў краіне няма асацыяцыі карупцыянераў, то няма і карупцыі — дыпламатычная логіка, якую ніколі не зразумеюць родныя асуджаных за адрозныя ад афіцыйных словы і ідэі.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ДАКРЫЧАЦЦА ДА ГЛУХІХ

Вольга ХВОІН

**У Беларусі галадалі непаўнагадовыя маладафронтаўцы, экс-кандыдаты ў прэзідэнты, пенсіянеры і журналісты. Галадалі за мову, свабоду, справядлівасць. Усе галадоўкі ў кароткай гісторыі суверэннай Беларусі і не прыгадаць. Ці ёсць плён у ахвяраванні свайго здароўя ў імя гучных мэтаў і ідэалаў, сказаць цяжка, але часам «зашыты» рот хіба што застаецца магчымасцю дакрычацца да глухіх. Цяпер у Віцебскім СІЗА ад 19 снежня трымае галадоўку актывіст Кансерватыўна-хрысціянскай партыі КХП-БНФ Сяргей Каваленка.**

Яго вінавацяць у парушэнні рэжыму адбывання «хатняй хіміі» — умоўнага пакарання, прысуджанага яму за бел-чырвона-белы сцяг, вывешаны 7 студзеня 2010 года на гарадской навагоднай ёлцы ў цэнтры Віцебска. Каваленку пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі. Суд над упартым актывістам апазіцыйнага руху Сяргеем Каваленкам пачнецца 21 лютага ў судзе Першамайскага раёна Віцебска. Да гэта ж дня ад свайго затрымання 10 снежня 2010 года Сяргей трымае галадоўку.

12 студзеня суд Першамайскага раёна Віцебска разглядаў адміністрацыйную справу ў адносінах да актывіста. Суддзя Вольга Іванова прызнала Каваленку вінаватым у здзяйсненні «дробнага хуліганства» і пакарала яго штрафам у памеры 4 базавыя велічыні (140 тысяч рублёў). Каваленку абвінавачвалі ў ужыванні нецэнзурнай лаянкі ў будынку крымінальна-выканаўчай інспекцыі Першамайскага РАУС, куды ён прыйшоў адзначацца ў сувязі са знаходжаннем на «хатняй хіміі». Сяргей Каваленка ў судзе заявіў: «Буду галадаць, пакуль альбо не выйду з-за кратаў, альбо не памру».

Віцебскі праваабаронца Павел Левінаў гаворыць, што ведае Каваленку асабіста і ўпэўнены, што той можа сапраўды пайсці да канца.

На 31-ы дзень галадоўкі ў сярэдзіне студзеня жонка палітвязня даведалася, што Сяргея пачалі карміць прымусова, праз зонд. Павел Левінаў гаворыць, што цяпер няма інфармацыі пра прымусовае кармленне. «Відаць, у СІЗА усё ж зразумелі, што такімі дзеяннямі парушаюцца міжнародныя нормы. У мяне ёсць інфармацыя, што праз некалькі дзён пасля актаў прымусовага кармлення Каваленка быццам бы раз на дзень прымаў ежу. 10 лютага з ім меў сустрэчу адвакат, ён распавёў, што выглядае Каваленка кепска, знясілена», — распавядае праваабаронца. Да слова, Левінаў запісаўся на прыём да намесніка начальніка СІЗА, дзе ўтрымліваецца Каваленка, на 20 лютага — акурат за дзень да суда над актывістам.

Абмяркоўваючы сэнс, мэтазгоднасць галадовак у Беларусі, Павел Левінаў падкрэсліве — гэта ёсць! "Я сам трымаў некалькі галадовак, хаця і мне спрабавалі давесці, што гэта марная трата здароўя. Але ўявіць, што той жа Каваленка мог бы проста сядзець у СІЗА і хто б пра яго ведаў, хто б гаварыў пра гэтую справу? Мы не можам інакш данесці інфармацыю, толькі вось такімі радыкальнымі метадамі», — зазначае Левінаў.

Наконт справы Каваленкі з ім звязваліся з Еўрапейскага парламенту. На днях прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц з гэтай нагоды распаўсюдзіў адпаведную заяву. «Я ўзрушаны пагаршэннем сітуацыі ў Беларусі ў галіне правоў чалавека і палітычных свабодаў. Доўгая галадоўка ў турме актывіста апазіцыі Сяргея Каваленкі выдзяляе парушэнні дэмакратычных прынцыпаў і непавагу да вяршэнства закона. Я заклікаю беларускія ўлады неадкладна вызваліць Каваленку без усялякіх умоў і даць яму неабходную медыцынскую дапамогу. Беларускія ўлады будуць мець кроў на руках, калі ён памрэ. Я паўтараю свой заклік вызваліць і рэабілітаваць усіх астатніх палітычных зняволеных, у тым ліку двух былых кандыдатаў у прэзідэнты Мікалая Статкевіча і Андрэя Саннікава, вядомага абаронца правоў чалавека Алеся Бяляцкага, актывістаў апазіцыі Дзмітрыя Бандарэнку, Мікалая Аўтуховіча, Дзмітрыя Дашкевіча ды іншых. Я таксама хацеў бы паўтарыць свой асабісты зварот да Лукашэнкі аб памілаванні Уладзіслава Кавалёва і Дзмітрыя Канавалава, якія асуджаныя да смяротнага пакарання», — гаворыцца ў заяве прэзідэнта Еўрапарламента Марціна Шульца.


Сяргей Каваленка

Апантанаму беларускай ідэяй, упартаму Каваленку ў мясцовай дзяржаўнай прэсе стварылі вобраз хулігана, бандыта, «мутанта, якому месца ў заапарку». Сяргей звяртаўся ў суд, каб прыцягнуць да адказнасці рэдактара газеты «Віцьбічы» Ніну Тулінаву і журналістку Наталлю Васільеву, якая напісала абразлівы артыкул, аднак у разглядзе скаргі было адмоўлена.

У Сяргея засталіся маці-пенсіянерка, жонка з двума дзецьмі.

Справядлівае пытанне віцебскага праваабаронцы, чаму вывешванне нацыянальных сцягоў у вачах мясцовых уладаў такое злачынства, што Каваленка трапіў у няміласць ды быў ізаляваны? А ў той жа час двое віцебскіх міліцыянтаў, якія праходзілі па сапраўды гучных справах, былі абвінавачаныя ў злачынствах ды асуджаныя на 4 і 4,5 гады пазбаўлення волі, нават на свае касацыйныя пасяджэнні прыходзілі вольна. А былы палкоўнік міліцыі Дынас Лінкус, які збіваў людзей, пагражаў згвалтаваннямі жанчыне, разгульвае на свабодзе пад падпіскай аб нявыездзе.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 24 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.05, 07.35, 08.10, 08.35** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00,09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Навіны.
**07.30, 08.30** Дзелавое жыццё.
**09.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**10.05** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**11.00** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**12.10** Сфера інтарэсаў.
**12.35** Цыкл тэлеперадач «Дыялогі аб цывілізацыі».
**13.00** «Зброя». Цыкл дакументальных фільмаў (Беларусь).
**13.30** «Аты-баты, ішлі салдаты.. « (СССР).
**15.10,19.15** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Актуальнае інтэрв'ю.
**15.40** Фартыфікацыя.
**16.20** «Тур дэ Карэя». Дакументальны фільм (Рэспубліка Карэя).
**16.50** Хранікальна-дакументальны цыкл «Нябачны фронт» (Беларусь).
**17.00** Меладраматычны серыял «Маруся» (Украіна).
**17.55** Серыял «За ўсё табе дзякую-2» (Украіна).
**19.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40, 01.40** Дзень спорту.
**21.50** Камедыйны баявік «48 гадзін» (ЗША).
**23.55** Трылер «У аблозе» (ЗША).

### Н

**06.00, 09.00** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.05** «Права на абарону».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Бедная Насця». Шматсерыйны фільм.
**12.00** «Жукаў». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Хачу ведаць».
**13.40** «Кантрольны закуп».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**17.00** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны.
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне». Беларусь.
**19.00** «Поле цудаў».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера АНТ: «Я спяваю!».
**23.20** «Пражэктарпэрысхілтан».
**23.55** «Yesterday live».
**01.00** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Важняк. Гульня навылёт». Серыял.
**09.30** «Аўтапанарама».
**09.55** «Добры дзень, доктар».
**10.40** «Сямейныя драмы».
**11.40** «Званая вячэра».
**12.35** «Агонь кахання». Серыял.
**13.50** «Студэнты-2». Гумарыстычны серыял.
**14.40** «NEXT-3». Серыял.
**15.35** «Доктар Тырса». Серыял.
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Званая вячэра».
**18.30** Ток-шоў «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Гарачы лёд».
**23.30** Фільм «Шультэс». Расія. 2008 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Меладраматычны серыял «Гарачы лёд» (Расія-Украіна).
**10.00** Баявік «Сітуацыя 202» (Расія-Украіна).
**11.05** Ясі і худзей.
**11.35** Школа рамонту.
**12.40** Страсці па культуры.
**13.20** Час футболу.
**14.05** Гаспадар.
**14.35** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Заключны выпуск.
**15.35** Дакументальны фільм «Метафара».
**16.00** Пазакласная гадзіна.
**16.20** Нянудны глобус.
**16.45** Жансавет.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Хакей. КХЛ.
**21.00** Калыханка.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** «Экстрасэнсы вядуць расследаванне». Заключны выпуск.
**22.30** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.15** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд матчаў.
**00.10** Драма «Я ведаю, што ты ведаеш» (Вялікабрытанія).

---

**05.00, 06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**05.05, 09.05** «Рэспубліка сёння».
**05.20, 02.00** «Таямніцы манежа».
**06.05** М/с «Легенда аб спячай прыгажуні».
**06.40** «Цік - так».
**07.05, 08.05, 02.40** Т/с «Ваўчыца».
**09.25** «Смачны свет».
**10.05, 11.05** М/ф «Трайны скачок пантэры».
**12.20** «Навіны садружнасці. Культура».
**13.20** М/с «Прыгоды майстра Кун-фу».
**13.40** Т/с «Старшакласнікі».
**14.30** Т/с «Давай пажэнімся».
**15.25** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**17.05** «Правілы жыцця».
**18.25** «Акцэнты».
**18.40, 04.25** «Вялікі рэпартаж».
**19.10** М/ф «Чартар».
**21.20** «Неверагодная праўда пра зорак».
**22.20** «Любімыя акторы».
**22.50** М/ф «Леў Гурыч Сінічкін».
**00.15** М/ф «Забі мяне далікатна».

### Discovery CHANNEL

**05.00** Махінатары.
**05.25** Гіганцкія будоўлі.
**06.20, 17.00, 03.10** Як гэта ўладкавана?
**06.50, 17.30, 03.40** Як гэта зроблена?
**07.15, 15.05** Браты па зброі.
**08.10, 16.00, 20.00, 01.50** Разбуральнікі легенд.
**09.05, 13.40, 04.05** Круты цюнінг.
**10.00, 00.55** Рукатворныя цуды.
**10.55** Хлопцы з гарматамі.
**11.50** Баявыя машыны.
**12.45, 18.00, 23.00** Top Gear.
**14.35** Класіка з Паўднёвага пляжу.
**19.00, 00.00** Ці магчыма гэта?
**21.00** Скрыўленне часу.
**22.00** Прасцяк за мяжой.
**02.45** Вокамгненныя катастрофы.

### EUROSPORT

**10.30** Санкавы спорт. Кубак свету. Агляд.
**11.00, 14.00, 17.45** Скачкі на лыжах з трампліна. Чэмпіянат свету. Кваліфікацыя. HS 206. Вікерсунд.
**12.00** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Жанчыны. 10 км класічным ходам. Шклярска-Парэмба.
**12.45** Лыжныя гонкі. Кубак свету. Мужчыны 15 км класічным ходам. Шклярска-Парэмба.
**13.15** Горныя лыжы. Кубак свету. Масква.
**15.00** Тэніс. Турнір WTA. Дубай. 1/4 фіналу.
**16.00, 20.15, 02.30** Тэніс. Турнір WTA. Дубай. 1/2 фіналу.
**18.30, 01.00** Скачкі на лыжах з трампліна. Чэмпіянат свету. HS 206. Вікерсунд.
**22.00, 22.30** Цімберспорт. Чэмпіянат свету. Нідэрланды.
**23.00** Бокс. Турнір The Bigger's Better.
**02.00** Ралі. Ралійная серыя IRC. Дзень 1.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** Басанож па свеце.
**08.00** «Час гонару», серыял: 40 серыя.
**08.50** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**09.15** «Школа на санцапёку», серыял: 6 серыя.
**09.40** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Як кот з сабакам».
**10.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**10.45** Аблічча таталітарызму: «Звычайны прэзідэнт», дак. фільм, 1996 г., Беларусь.
**11.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**12.15** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**12.40** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**13.25** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**13.50** «Школа на санцапёку», серыял: 6 серыя.
**14.15** «Час гонару», серыял 40 серыя.
**15.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**15.30** «Браты-ворагі», дак. серыял: «Як кот з сабакам».
**16.00** Аблічча таталітарызму: «Звычайны прэзідэнт», дак. фільм, 1996 г., Беларусь.
**17.00** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 10 серыя.
**17.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**17.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**18.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.55** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 4 серыя.
**19.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**19.30** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**19.40** Гарачы каментар.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Невядомая Беларусь: «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.50** «Вулічныя гульні», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**23.30** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**23.35** Аб'ектыў.
**00.00** Гарачы каментар.

## 25 ЛЮТАГА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.35** Існасць.
**07.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Ранішняя хваля.
**09.45** Каробка перадач.
**10.20** Культурныя людзі.
**10.55** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.15** Народная камедыя «Печкі-лавачкі» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**15.55** Сямейная камедыя «Павуцінне Шарлоты» (ЗША).
**17.35** Відэафільм АТН «Скрыжалі зямлі беларускай..» цыклу «Зямля беларуская».
**18.05** Ваша лато.
**18.45** Латарэя «Пяцёрачка».
**19.15** Камедыя «Вышэйшы бал» (ЗША-Германія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Камедыйны баявік «Іншыя 48 гадзін» (ЗША).
**23.30** Дэтэктыў «Бумеранг» (Расія).
**01.15** Дзень спорту.

### Н

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.40** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**11.50** Суботні «Ералаш».
**12.15** Фільм «І усёткі я кахаю…».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Асяроддзе пасялення.
**17.20** Прэм'ера. «Мікалай Растаргуеў. «Давай за жыццё!».
**18.25** «Адзін супраць усіх».
**19.05** «Акадэмія талентаў».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. «Кубак прафесіяналаў».
**23.20** Прэм'ера. Фільм «ПіраМММіда».

### ТВ

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.10** «Анфас».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Я - вандроўца».
**09.25** «Чыстая праца».
**10.15** «Мінск і мінчане».
**10.50** Фільм «Манашкі ўцякаюць». Вялікабрытанія, 1990 г.
**12.40** «Прыгоды дылетанта».
**13.15** Кубак Чэмпіёнаў КВЗ Беларусі.
**15.05** «Ваенная таямніца».
**16.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** «Дарагая перадача».
**17.50** Фільм «Як знайсці ідэал?». Расія, 2008 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Чарадзейная краіна». ЗША-Вялікабрытанія, 2004 г.
**22.10** «Зорны рынг».
**23.25** Фільм «Школа нягоднікаў». ЗША.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Фантастычны баявік «Людзі Ікс» (ЗША).
**08.35** Дабравест.
**09.00** Мір вашай хаце.
**09.10** Пра мастацтва.
**09.40** Тэлебарометр.
**09.45** Школа рамонту.
**10.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.25** Наперад у мінулае.
**12.00** Фрыстайл. Кубак свету. Прамая трансляцыя.
**14.10** Шоў «Інтуіцыя».
**15.15** Беларуская кухня.
**15.55** Гандбол. Чэмпіянат Беларусі. Прамая трансляцыя.
**17.30** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».
**20.10** Прэм'ера. «Бітва экстрасэнсаў». 11-ы сезон.
**21.15** КЕНО.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Бітва экстрасэнсаў.
**22.30** Фантастычны баявік «Людзі Ікс» (ЗША).
**00.10** Шоў «Інтуіцыя».

---

**05.00, 04.20** Д/ф «Увесь гэты спорт».
**05.40** «Даведнік».
**06.15** М/ф «Наш двор».
**07.50** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.40** «На шашлыкі».
**10.10** «Таямніцы манежа».
**10.40, 01.30** Т/с «Чэрчыль».
**13.30** Д/с «Доказы віны».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10** Т/с «Апостал».
**20.40** «Навіны садружнасці. Культура».
**21.30** М/ф «Восень у Нью - Ёрку».
**23.45** «Добрыя жарты».

### Discovery CHANNEL

**05.00** Стварыя матацыкл.
**05.55, 21.00** Паляўнічыя за старызной.
**06.50, 22.00** Вугаль.
**07.45, 00.00** Рыба-меч.
**08.40** Грандыёзныя пераезды.
**09.35** Гіганцкія будоўлі.
**10.30** Марскі горад.
**11.25** Выжыць любым коштам.
**12.20** Будаўнічая дапамога.
**13.15, 13.40, 19.00, 19.30, 03.10, 03.40** Каралі аўкцыёнаў.
**14.10, 14.35, 20.00, 20.30, 04.05, 04.35** Брудныя грошы.
**15.05, 02.45** Як гэта ўладкавана?
**15.30** Як гэта зроблена?
**16.00** Ці магчыма гэта?
**17.00** Разбуральнікі легенд.
**18.00** Скрыўленне часу.
**23.00** Залатая ліхаманка.
**00.55** Рачныя монстры.
**01.50** Выжыць разам.

### EUROSPORT

**10.30** Санкавы спорт. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Спроба 1.
**11.00** Санкавы спорт. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Спроба 2.
**11.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Хуткасны спуск.
**13.30** Горныя лыжы. Мужчыны. Супергігант.
**14.45** Лыжнае двааборства. Кубак свету. HS 134.
**15.30** Лыжнае двааборства. Гонка па сістэме Гундэрсена.
**16.15** Санкавы спорт. Чэмпіянат Еўропы. Двойкі. Спроба 2.
**17.00, 18.00, 02.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Чэмпіянат свету. HS 206. Вікерсунд.
**19.45, 01.00** Тэніс. Турнір WTA. Дубай. Фінал.
**21.15** Баявыя мастацтвы. Байцоўскі клуб. Турнір «Суперкомбат». Агляд сезону.
**23.00** Баявыя мастацтвы. Турнір «Суперкомбат».
**02.00** Ралі. Ралійная серыя IRC. Агляд.
**04.00** Супербайк. Чэмпіянат свету. Заезд 1.

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Гарачы каментар.
**07.35** «Інстынкт», дэтэктыўны серыял: 9 серыя.
**08.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.45** Калыханка для самых маленькіх.
**09.10** Еўропа сёння.
**09.35** Невядомая Беларусь: «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**10.10** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 10 серыя.
**10.35** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**11.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.55** Калыханка для самых маленькіх.
**12.20** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**12.50** Невядомая Беларусь: «НКВД – гестапа. Браты па крыві», дак. фільм, 2009 г., Беларусь.
**13.20** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 10 серыя.
**13.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**13.55** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.20** «Вулічныя гульні», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**16.05** «Дзе ты, Украіна?», дак. фільм, 2008 г., Украіна.
**17.00** «Доктар Марцін», серыял: 14 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Нюрнбэрг», дак. фільм, 1996 г., ЗША–Вялікабрытанія.
**19.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**19.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх.
**20.00** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**20.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**20.35** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Два на два (тэледыскусія).
**21.40** Суботні сеанс: «Мой брат – адзіны сын», маст. фільм, 2007 г., Італія.
**23.25** «Мент», дэтэктыўны серыял: 10 серыя.
**00.15** Аб'ектыў.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 26 лютага, надзеля

**БЕЛАРУСЬ 1**

**07.00** Камедыя «Вышэйшы бал» (ЗША-Германія).
**08.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Медычныя таямніцы.
**10.15** Да цешчы на бліны.
**10.55** Серыял «Сваты» (Украіна).
**12.10** Камедыя «Паласатых рэйс»(СССР).
**13.55** Мультфільм.
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.10** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Адмысловы рэпартаж АТН «Чынук: гамарня чэмпіёнаў».
**15.50** Дакументальны фільм «Навука прывабнасці» (ЗША).
**16.45** Тэлефільм АТН «Галоўная перамога. 10 гадоў пасля».
**17.30** Хакей для ўсіх.
**18.15** Суперлато.
**19.05** Меладрама «Трэці лішні» (Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** «Еўрафэст». Відэадзённік.
**22.10** Ваенная драма «Выратаваць радавога Райана « (ЗША).
**01.05** Трагікамедыя «Начныя забавы» (СССР).
**03.00** 84-я штогадовая цырымонія ўзнагароджання «Оскар-2012». Прамая трансляцыя.

---

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Мая жонка мяне прычаравала». Шматсерыйны фільм.
**09.55** «Шалапутныя нататкі».
**10.15** Пакуль усе дома.
**11.10** Фазэнда.
**11.45** АНТ прадстаўляе: «Брэйн рынг».
**12.45** «Нябёсы». Канцэрт В.Меладзэ.
**14.15** Фільм «Кватарантка».
**16.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Нядзельны «Ералаш».
**16.30** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**18.50** Прэм'ера. «У чорным-чорным пакоі…».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера. «Дзве зоркі».
**22.35** Прэм'ера. Камедыя «Службовы раман. Наш час».
**00.20** Фільм «Мядовы месяц Каміілы».

**СТВ**

**07.00** «Далёкія сваякі».
**07.25** «Салдаты-13». Серыял.
**09.00** «Аўтапанарама».
**09.30** «Відавочнік прадстаўляе: самае смешнае».
**10.05** «Вялікі сняданак».
**10.45** Фільм «Чарадзейная краіна». ЗША-Вялікабрытанія, 2004 г.
**12.35** «Добры дзень, доктар».
**13.05** Фільм «Яны ваявалі за Радзіму». СССР, 1975 г.
**15.45** Ток-шоў «Такі лёс».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Праўда».
**17.30** Канцэрт М.Задорнава.
**19.00** «Аўтапанарама».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Каралі Мамба». ЗША-Францыя, 1992 г.
**22.40** «Прафесійны бокс».
**23.40** Фільм «Ваенны рэквіем». Вялікабрытанія, 1988 г.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.10** Прыступкі Веры.
**07.25** Кожны мае права быць розным.
**07.50** Іранічны дэтэктыў «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана».
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Школа рамонту.
**11.45** Вышэй за дах.
**12.20** Шоў «Інтуіцыя».
**13.25** Бухта капітанаў.
**14.05** «Афіцэры» (СССР).
**15.55** Хакей. КХЛ. Прамая трансляцыя.
**18.35** Кінаспробы.
**19.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Арсенал - Тотэнхем.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Навіны надвор'я.
**21.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**22.15** Спорт-кадр.
**22.55** Трылер «Што хавае хлусня» (ЗША).
**01.00** Шоў «Інтуіцыя».

---

**05.00** Д/ф «Увесь гэты спорт».
**05.40** «Смачны свет».
**06.15, 02.50** М/ф «Высадкі».
**07.50** М/с «Прыгоды Мумі Троля».
**08.15** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**08.30** «Прыгоды Компаса і Будзільніка».
**08.45** «Эксперыментатары».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Ведаем рускую».
**10.10** «Даведнік».
**10.40, 00.00** Т/с «Чэрчыль».
**13.30** Д/с «Доказы віны».
**14.00** «Правілы жыцця».
**15.10, 21.00** Т/с «Апостал».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**22.00** «Паўночнікі».
**22.30** М/ф «Космас як прадчуванне».

**Discovery CHANNEL**

**05.00, 05.25** Вокамгненныя катастрофы.
**05.55, 01.50** Лабараторыя выбухных ідэй.
**06.50, 12.20, 19.00, 00.55** Разбуральнікі легенд.
**07.45, 02.45** Як гэта ўладкавана?
**08.10** Як гэта зроблена?
**08.40** Залатая ліхаманка.
**09.35** Вугаль.
**10.30** Выжыць разам.
**11.25** Ці магчыма гэта?
**13.15** Скрыўленне часу.
**14.10** Будаўнічая дапамога.
**15.05** Выжыць любым коштам.
**16.00, 16.30, 17.00, 17.30, 18.00, 18.30** Пятая перадача.
**20.00** Хлопцы з гарматамі.
**21.00** Нічога асабістага.
**22.00** Рос Кемп.
**23.00** Працяк за мяжой.
**00.00** Рачныя монстры.
**03.10** Марскі горад.
**04.05** Грандыёзныя пераезды.

**EUROSPORT**

**05.15, 19.30, 00.30** Суперспорт. Чэмпіянат свету.
**06.15** Ралі. Ралійная серыя IRC. Агляд.
**06.45, 19.00, 23.45** Супербайк. Чэмпіянат свету. Заезд 1.
**07.30, 20.15, 01.30** Супербайк. Чэмпіянат свету. Заезд 2.
**08.30, 10.30** Тэхнічны перапынак.
**10.30** Санкавы спорт. Чэмпіёна Еўропы. Мужчыны. Спроба 1.
**11.00** Лыжнае дваяборства. Кубак свету. HS 134.
**11.45** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Слалам-гігант. Спроба 1.
**13.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Жанчыны. Супер-гігант.
**14.30** Лыжнае дваяборства. Гонка па сістэме Гундэрсена.
**15.00** Горныя лыжы. Кубак свету. Мужчыны. Слалам-гігант. Спроба 2.
**16.00, 22.30, 02.30** Скачкі на лыжах з трампліна. Чэмпіянат свету. HS 206. Вікерсунд.
**17.45** Тэніс. Турнір WTA. Дубай. Фінал.
**21.00** Бокс. Турнір The Bigger's Better.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**07.45** «Доктар Марцін», серыял: 14 серыя.
**08.35** Калыханка для самых маленькіх.
**09.05** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**09.15** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**09.40** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**10.25** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Цені сяброўства», рэпартаж, 1997 г., Польшча.
**10.55** Два на два (тэледыскусія).
**11.25** «Стоп, ДАІ», рэпартаж, 2011 г., Польшча.
**11.45** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл: 4 серыя.
**11.55** «Тэра постсаветыка. Сочы», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**12.20** Калыханка для самых маленькіх.
**12.50** «Нюрнбэрг», дак. фільм, 1996 г., ЗША–Вялікабрытанія.
**13.50** «Мой брат – адзіны сын», маст. фільм, 2007 г., Італія.
**15.35** «Восем жыццяў «Жука» KFZ-1348», дак. фільм, 2008 г., Бразілія.
**17.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).
**17.15** «Час гонару», серыял: 41 серыя.
**18.05** Прыватная калекцыя (агляд культурных падзеяў).
**18.30** Два на два (тэледыскусія).
**18.55** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 10 серыя.
**19.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**19.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавучая праграма).
**19.40** Калыханка для самых маленькіх.
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Архімандрыт», дак. фільм, 2012 г., Польшча.
**20.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**21.00** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**21.40** Эксперт (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**22.15** Фільматэка майстроў: «Блюз па-гаванску», маст. фільм, 2005 г., Іспанія–Францыя–Куба.
**00.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).
**00.20** Тыдзень у «Аб'ектыве».
**01.00** Прэс-экспрэс (агляд медыяў).

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:

Магілёў: (8 029) 604 34 57, Юрый;
Мінск: (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск: (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк: (8044) 755 66 48 Марына.

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

З новага 2012 года мы вымушаны ўзняць падпісны кошт аднаго нумара газеты да 1200 руб., аднаго месяца — 4800 руб. Дзякуй, вам, за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл.: (8 029) 651 21 12.**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

З НАГОДЫ

# БАЙКАТАВАЦЬ ЕЎРАБАЧАННЕ

Алег НОВІКАЎ

**Конкурс «Еўрабачання» ў Баку абяцае стаць грандыёзным і адначасова вельмі скандальным мерапрыемствам.**




Як вядома, Баку атрымаў права праводзіць фінал конкурсу пасля таго, як азербайджанскі дуэт Нігяр Джамал і Эльдар Касімаў з песняй «Running Scared» выйграў конкурс «Еўрабачанне–2011», які праходзіў у нямецкім Дзюсельдорфе.

Нягледзячы на тое, што мастацкі ўзровень «Еўрабачання» дастаткова нізкі, конкурс карыстаецца вялікай папулярнасцю (яго фінал у сярэднім глядзяць 100 мільёнаў чалавек). Акрамя таго, шмат хто разглядае як сапраўднае міжнацыянальнае супрацьстаянне.

Так, пасля таго, як стала вядома пра перамогу азербайджанскага дуэта, на вуліцы Баку высыпалі людзі. І гэта нягледзячы на лівень і на тое, што ў Азербайджане была ўжо глыбокая ноч. Прэзідэнт Ільхам Аліеў адразу назваў навіну з Германіі «вялікім поспехам азербайджанскай дзяржавы і яе народа». Урад краіны заявіў, што перамога дасць краіне шанец паказаць усёй Еўропе сваю культуру і традыцыі.

У Баку адразу пачалі рыхтавацца да «Еўрабачання–2012». Прычым з вялікім размахам. Дастаткова сказаць, што ў горадзе будуюць новы канцэртны комплекс для спартовых і забаўляльных мерапрыемстваў, які здольны змясціць 25 тысяч чалавек.

Аднак запланаваная піяр-акцыя азербайджанскіх уладаў мае і адваротны бок. Азербайджан трапіў у фокус інтарэсу сусветнай грамадскасці, і праціўнікі аліеўскага рэжыму дзякуючы «Еўрабачанню» атрымалі пляцоўку для гучных заяў. Акрамя таго, у іх з'явілася моцная зброя — заклікі да байкоту конкурсу, якія вельмі трывожна ўспрымаюцца ў Баку.

Як і трэба было чакаць, першымі супраць «Еўрабачання» выступілі армянскія нацыяналісты. І не толькі ў Арменіі. Іх арганізацыі ў замежжы пачалі ціснуць мясцовыя ўрады таксама адклікаць сваю заяўку на ўдзел у «Еўрабачанні–2012».

«Паважаючы памяць нявінна забітых азербайджанскімі нацыяналістамі мірных армян, а таксама ў знак памяці да шматлікіх сотняў тысяч армян-уцекачоў, мы заклікаем Арменію адмовіцца і не браць удзел у песенным конкурсе. Мы заклікаем краіны, якія заснавалі конкурс «Еўрабачанне», а гэтак жа ўдзельнікаў конкурсу песні «Еўрабачанне–2012» і Еўрапейскі вяшчальны саюз падтрымаць нас і абвясціць байкот планаванаму песеннаму конкурсу», — гаворыцца ў звароце адной з армянскіх нацыяналістычных арганізацый.

Сама Арменія пакуль не вызначылася наконт удзелу ў мерапрыемстве. Фармальна права належыць дзяржаўнаму тэлебачанню, хаця рашэнне яўна будзе прынята на больш высокім узроўні. Таксама варта адзначыць, што ў краіне ідзе выбарчая кампанія ў парламент, што ўплывае на рашэнне пра паездку ў Баку.

Скарысталіся сітуацыяй і праваабарончыя арганізацыі. Азербайджан мае цудоўных музыкаў, аднак правамі чалавека ён ганарыцца не можа. Арганізацыя «Freedom House» змясціла Азербайджан на 171-е месца з 191 краіны ў плане свабоды прэсы і правоў грамадзян. Праваабарончая арганізацыя «Amnesty International» налічвае ў мясцовых турмах 17 вязняў сумлення і патрабуе іх неадкладнага вызвалення. Касцяк азербайджанскіх палітычных лідараў — арыштаваны за ўдзел у акцыях пратэсту супраць аліеўскага аўтарытарызму.



Азербайджан трапіў у фокус інтарэсу сусветнай грамадскасці, і праціўнікі аліеўскага рэжыму дзякуючы «Еўрабачанню» атрымалі пляцоўку для гучных заяў

Праваабарончыя арганізацыі спадзяюцца, што міжнародная супольнасць зверне ўвагу і на парушэнні правоў чалавека ў Азербайджане. «Дзякуючы гэтай перамозе, Азербайджан апынецца ў цэнтры ўвагі ўсёй Еўропы. Гэта можа азначаць, што ўрад пачне лепш абыходзіцца са сваімі грамадзянамі», — кажа азербайджанскі праваабаронца Табіб Гусейнаў.



Алена Ланская

Шэраг праваабарончых арганізацый ужо пачалі кампанію пад слоганам «Спявай у імя дэмакратыі», прымеркаваную да правядзення «Еўрабачання» ў Баку.

Самы свежы прыклад парушэння правоў чалавека звязаны непасрэдна з падрыхтоўкай да правядзення «Еўрабачання–2012». Абнаўленне архітэктурнага аблічча Баку, актыўнае будаўніцтва гатэляў і сучасных бізнэсцэнтраў напярэдадні конкурсу суправаджаюцца гвалтоўнымі высяленнямі тысяч жыхароў горада. Усяго, па падліках спецыялістаў, улады збіраліся знесці 65 дамоў. Шмат іх жыхароў адмаўляліся пакінуць родныя хаты, сцвярджаючы, што грашовая кампенсацыя за высяленне вельмі нізкая (прыкладна 1900 долараў за квадратны метр).

Пакутуюць ад «Еўрабачання» не толькі людзі, аднак і іх браты меншыя. Увосень абаронцы жывёл атрымалі трывожныя паведамленні пра знішчэнне бадзяжных жывёл на вуліцах Баку. Азербайджанскія эколагі кажуць пра масавае забойства катоў і сабак.

Нічога дзіўнага, што ізраільская арганізацыя абароны жывёл у сваім лісце на імя міністра культуры заклікала яго не дасылаць ізраільскую дэлегацыю ў Азербайджан. Улады Баку не адмаўляюць, што «чыстка» вуліц мае месца, аднак адзначаюць, што знішчэнню падвяргаюцца толькі хворыя жывёлы.

Аднак найбольш скандальная тэма, звязаная з «Еўрабачаннем–2012», тычыцца гей-параду. Так павялося, што апошнія «Еўрабачанні» не абыходзіліся без карнавальных вулічных дэфіле прадстаўнікоў сэксуальных меншасцяў.

Адпаведна, улады трапілі ў пастку. З аднаго боку, хочацца зрабіць усё як у людзей. З іншага, гей-парад у Баку — гэта ўдар па прэстыжу ўлады. Публіка ў Азербайджане вельмі кансерватыўная.

Адсюль супярэчлівыя канвульсіі ва ўладных калідорах. Спачатку ідэю гей-параду ў Баку ўспрынялі як нейкую правакацыю, прычым звязаную з падкопамі армянскіх спецслужб. Пасля, калі еўрапейскія праваабарончыя арганізацыі пабачылі ў гэтым парушэнне правоў сэксуальных меншасцяў, стаўленне да пытання змянілася.

«Мы разглядаем усё гэта (абвінавачанні ў парушэнні правоў геяў) як няўдалыя спробы скептыкаў з-за мяжы, якія выкарыстоўваюць надыходзячы конкурс «Еўрабачання» ў Азербайджане і наўмысна згушчаюць фарбы. Улады Азербайджана запэўніваюць, што будуць добразычліва ставіцца да турыстаў-геяў, якія прыедуць у Баку», — кажа адзін з чыноўнікаў, адказных за падрыхтоўку да «Еўрабачання».

Адным словам, можна чакаць, што нейкая імітацыя гей-параду ў Баку ўсё ж можа мець месца. Што выклікае жах у мясцовай гей-субкультуры. «Сярод бакінскіх геяў і лесбіянак ніхто нават не думаў пра публічную акцыю», — прызнаецца адзін з актывістаў супольнасці ў інтэрв'ю BBC.

Заклапочанасць гей-актывістаў гульнямі ўладаў у галіне правоў сэксуальных меншасцяў цалкам зразумелая. Адказваць давядзецца не гей-турыстам, а гей-тубыльцам. Прапанова пра правядзенне гей-параду падчас музычнага конкурсу «Еўрабачання» ў Баку ўжо выклікала гнеў у кансерватыўных жыхароў азербайджанскай сталіцы. У фэйсбуку была аператыўна створана старонка, аўтары і сябры якой заклікаюць сказаць параду цвёрдае «не». А група мясцовых геяў з таго часу стала рэгулярна атрымліваць смяротныя пагрозы.

## ЯНЫ ПРА НАС: ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Некаторыя сябры ЕС хочуць адмяніць чорны спіс неўязных, іншыя — не. Гэта можна абмяркоўваць, але відавочна адно: ніякі дыялог з Мінскам недапушчальны датуль, пакуль не вызваленыя палітвязні. Лукашэнку ўласціва весці перамовы, ставячы на кон жыцці вязняў.

**«Le Monde» (Францыя)**

Эксперты, у тым ліку дзяржаўныя, папярэджваюць, што некаторае паляпшэнне эканамічнай сітуацыі — не нагода для самазаспакаення. Мяркуючы па ўсім, цяперашняе паслабленне абдымак братэрскай Расіі, якое мясцовыя палітолагі лічаць часовым, улады Беларусі не збіраюцца выкарыстоўваць для рэфармавання эканомікі. У доўгатэрміновай перспектыве гэта пагражае не толькі сур'ёзнымі эканамічнымі праблемамі, але і ўтрымлівае палітычныя рызыкі страты незалежнасці.

**«Независимая газета» (Расія)**

Дыскусія пра фармат удзелу ў парламенцкай кампаніі агаліла вострыя крызіс у кіраўніцтве беларускай апазіцыі. Няздольнасць да кампрамісаў пакіне цяперашніх апазіцыйных лідараў за бортам. Праблема новых лідараў у беларускім апазіцыйным асяроддзі — даўняя гісторыя. Пасля 2000-га года на змену патрыярхам дэмакратычнага руху, якія ўтрымлівалі партыйныя лідарства больш за 10 гадоў, прыйшло так званае пакаленне «новай хвалі». Але і ў яго прадстаўнікоў хутка выявіўся галоўны недахоп папярэднікаў — няздольнасць да кампрамісаў.

**«Deutche Welle» (Германія)**

Апаненты Аляксандра Лукашэнкі знайшлі яго болевую кропку — чэмпіянат свету па хакеі 2014 года, права на правядзенне якога Мінск атрымаў некалькі гадоў таму. Чым бліжэй старт буйнага турніру, тым часцей з боку розных палітыкаў і грамадскіх актывістаў гучаць патрабаванні перанесці чэмпіянат у іншую краіну з-за шматлікіх парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі. Калі яны даб'юцца свайго, па самалюбству Лукашэнкі, які славіцца любоўю да хакея і нават выходзіць на лёд у майцы з нумарам адзін, будзе нанесены моцны ўдар.

**«Новые Известия» (Расія)**

Аналітыкі ў Мінску ўпэўнены, што наладзіць адносіны з Пуціным у Лукашэнкі не атрымалася. Таму шэраг экспертаў прагназуюць зварот да стану «халоднай вайны» паміж кіраўнікамі Расіі і Беларусі праз месяц-другі пасля прыходу Пуціна да ўлады. У Лукашэнкі, зрэшты, застаецца выпрабаваны манеўр: пачаць праяўляць цікавасць да Захаду. Афіцыйны Мінск ужо пачаў дэманстраваць напачатку лютага, што пацяпленне на заходнім кірунку магчымае.

**BBC (Вялікабрытанія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. ГЭЙ, СЛАВЯНЕ-МАЛДАВАНЕ!

Рускія арганізацыі Малдовы пачалі цікавую кампанію за перагляд пастулату пра тое, што малдаване — гэта прадстаўнікі раманскай этнічнай групы. На думку групы арганізацый і выданняў, славянскія плямёны адыгрывалі вялікую ролю ў стварэнні малдаўскага этнасу. Сама нацыя нібыта ўзнікла ў выніку сімбіёзу румын і русінаў з Галіцыі. Прыводзіцца шмат аргументаў. Маўляў, менавіта русінскі складнік прывёў да з'яўлення ў малдаван этнакультурных і антрапалагічных адрозненняў ад іншых груп валахаў. Малдаўская дзяржаўнасць стваралася па ўзоры старажытнарускай. Так, буйныя землеўладальнікі называліся, як і на Русі, «баяры». Нарэшце, антрапалагічна аблічча малдаван мае адпаведна выяўленую ўсходнеславянскую скіраванасць. У фондзе сучаснай малдаўскай мовы налічваецца каля 2 тысяч усходнеславянскіх запазычанняў. У якасці высновы свайго даследавання аўтары прапануюць перайменаваць малдаўскую дзяржаву і называць, як і патрабуе гістарычная справядлівасць, — Малдаўская Русь.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ВАСЬМІНОГ-АНТЫСЕМІТ

Нямецкая партыя піратаў спрабуе даказаць, што яна не мае нічога агульнага з нацыстамі. Усё пачалося з таго, што піраты як партыя карыстальнікаў сеціва асудзілі прыняты ў Брусэлі закон Acta, які ахоўвае аўтарскае права і далучыліся да кампаніі пратэсту. Для гэтага былі надрукавана шэраг плакатаў. У тым ліку і з выявай васьмінога (сімвал Acta), які сваімі шчупальцамі ахопліваe зямны шар. Аказваецца, што гэта выява васьмінога — копія вядома малюнку з газеты «Sturmer» — самага бруднага антысеміцкага лістка ў Трэцім рэйху. З той папраўкай, што васьміног у «Sturmer» намаляваны з зоркай Давіда, што павінен сімвалізаваць сусветную яўрэйскую змову. Цяпер усе думаюць, навошта «аранжавыя» (партыйны колер піратаў) выкарыстоўваюць напрацоўкі прапаганды нацыстаў? Тым больш, што васьміног — вельмі любімая немцамі жывёла. Краіна дасюль не забыла васьмінога Паўля, які прадказваў вынікі матчаў падчас чэмпіянату свету па футболу.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. НОВЫЯ ПРАВІЛЫ ДЛЯ ІНТЭРНЭТ-КЛУБАЎ



З новага года набыла сілу пастанова ўрада Казахстана «Правілы аказання паслуг доступу да сеткі інтэрнэт». Новыя правілы значна абмяжоўваюць правы карыстальнікаў і магчымасці ўладальнікаў інтэрнэт-клубаў. Так, кожнага наведвальніка будуць здымаць на відэакамеру, яго дадзеныя павінны захоўвацца ў базе ўстановы не меней шасці месяцаў, кліентам неабходна з сабой мець дакумент. Улады не хаваюць, што мера палітычная: «Прыняцце новых правіл аказання паслуг доступу да сеткі інтэрнэт звязана з узмацненнем мер па процідзеянні радыкальным экстрэмісцкім і тэрарыстычным арганізацыям на тэрыторыі Казахстана», — кажа прадстаўнік Камітэту нацыянальнай бяспекі. Між тым ёсць думка, што новы закон — гэта рэха падзей у Жанаазене, калі відэа расстрэлу мірных грамадзян з'явілася ў інтэрнэце і выклікала такі скандал, што прымусіла ўлады змяніць сваю версію аб нафтавіках-пагромшчыках. Так ці інакш, па падліках спецыялістаў, з-за новага закону ў Казахстане ў гэтым годзе колькасць інтэрнэт-кавярняў скароціцца на 20 працэнтаў.

**Паводле казахскай прэсы**

### АРМЕНІЯ. МАРА ПРА ВЫХАД ДА МОРА

Уапошні час на інтэрнэт-форумах Арменіі на ўсю моц ідзе абмеркаванне магчымага развіцця падзей вакол Ірана. Эмоцыі б'юць праз край. Сярод нацыяналістаў узнікла думка, што калі Ерэван падтрымае Захад у вайне супраць Ірану, Арменія мае шанс у якасці кампенсацыі атрымаць частку іранскай тэрыторыі і, адпаведна, выхад да берагоў Каспійскага мора. «Упэўнены, што хуткім часам у Закаўказзі адбудуцца такія падзеі, пасля якіх Арменія будзе мець выйсце да мора», — піша адзін з карыстальнікаў сеціва. Нацыяналісты ўжо дзеляць скуру незабітага мядзведзя. «Выйсце на ўзбярэжжа Каспія — гэта: 1) выйсце з блакады; 2) выйсце да вуглевадародных рэсурсаў Каспія», — піша другі прыхільнік экспансіі Арменіі. Песімісты ў сваю чаргу заклікаюць суайчыннікаў не захапляцца напалеонаўскімі планамі. Нават калі ЗША і саюзнікі дабʼюцца перамогі ў магчымым канфлікце з Тэгеранам, ніхто не пойдзе на перагляд існуючых дзяржаўных межаў. Застаецца дадаць, што ў старажытнасці Арменія сапраўды мела выхад да мора. Праўда, не да Каспійскага, а Міжземнага.

**Паводле армянскай і рускай блогасферы**

ЦІКАВА

# СЫНЫ ДЫКТАТАРАЎ

Алег НОВІКАЎ



**Няздольнасць сірыйскага прэзідэнта Башара аль-Асада прыпыніць гвалт і пачаць дыялог з апазіцыяй некаторыя палітолагі звязваюць з тым, што ён адносіцца да асобнай сацыяльна-псіхалагічнай катэгорыі людзей — так званых «сыноў дыктатараў».**

Феномену псіхікі сыноў дыктатараў прысвяціла артыкул нямецкая газета «Cicero». Выданне лічыць, што галоўная праблема сірыйскага кіраўніцтва звязаная з псіхічнымі характарыстыкамі прэзідэнта Башара аль-Асада, якія, у сваю чаргу, характэрныя для ўсіх сыноў дыктатараў. У гэтых людзей, калі верыць газеце, адсутнічае разуменне рэальнасці, што, у сваю чаргу, звязана з парушэннем псіхікі ў дзяцінстве. Аўтар артыкулу Марыя Амрхэйн называе гэты феномен «kognitive Verzerrung», што можна перакласці як кагнітыўнае скажэнне, або скажэнне спазнання. На яе думку, дэвіяцыя выклікаецца тым, што ў чалавека пераблыталіся катэгорыі праўды і хлусні.

«Дзеці дыктатараў выраслі ў залатой клетцы, правялі сваё жыццё сярод фальшывых сяброў, у поўнай ілюзій рэальнасці. Ніхто не мог сказаць ім, што яны прымаюць няправільныя рашэнні», — піша газета.

На думку аўтара, існуе натуральны працэс эмансіпацыі свядомасці дзіцяці. «Гэта вельмі доўгая асабістая праверка на практыцы атрыманай ад бацькоў інфармацыі, установак аб каштоўнасцях, праверка іх маштабаў. Аднак дзеці дыктатараў пазбаўленыя гэтага».

Гэта праблема, калі верыць Марыі, ускладняецца напружанай палітычнай сітуацыяй, характэрнай для ўсіх дыктатарскіх рэжымаў. З-за праблем бяспекі дзеці дыктатараў абмежаваныя ў кантактах. Яны не могуць проста без аховы пайсці гуляць на вуліцу, камунікаваць з аднагодкамі.

Не спрыяе нармальнаму выхаванню і супярэчнасць паводзінаў бацькоў у праекцыі на дзіцячую свядомасць. Наўрад ці такі бацька можа растлумачыць наіўнаму сыну або дачцэ, чаму ён арыштаваў нейкага палітыка або абвясціў вайну суседняй краіне. У лепшым выпадку, ён проста схавае інфармацыю, у горшым — прыдумае апраўданне для сваіх учынкаў, што ў выніку легітымізуе ў разуменні дзіцяці дэструктыўную для яго псіхікі тэзу — гвалт дазволены.

Адсюль, быццам, і крыніцы абсалютна дзіўных з пункту гледжання пабытавай логікі паводзін дзяцей дыктатараў у больш дарослым узросце. У доказ свайго тэзісу аўтар прыводзіць гісторыю пра аднаго з сыноў Муамара Кадафі, які, будучы ў Швейцарыі, разам з жонкай абліваў кіпнем выхавацельку сваіх дзяцей. Тое, што швейцарскія ўлады ўзбудзілі па гэтым факце справу, стала прычынай для сапраўднай неафіцыйнай вайны паміж Трыпалі і Жэневай. Муамар, як вядома, нават патрабаваў ліквідацыі Швейцарыі як дзяржавы і вынес адпаведную ідэю на разгляд ААН.

«Cicero» згадвае таксама пра Кім Чон Ына, цяперашняга кіраўніка Паўночнай Карэі. У дзяцінстве ён вучыўся ў пансіянаце ў Швейцарыі і быў, па словах аднакласнікаў, дастаткова ўважлівым і разумным вучнем. Аднак час ад часу ён рабіў дзіўныя ўчынкі. Напрыклад, неяк зладзіў вялікую патрэбу на прыслугу за тое, што падрыхтаванае імі спагеці было не вельмі смачнае.

Тэорыя пра дэвіяцыі дзяцей дыктатараў, якую прапанавала газета, дастаткова спрэчная. Хаця Башар і вырас у дыктатарскай сям'і (яго бацька захапіў уладу, калі яму было 5 гадоў), ён не лічыўся кандыдатам у пераемнікі. На гэтую ролю рыхтавалі яго старэйшага брата, які загінуў у 1994 годзе ў авіякатастрофе. Сам Башар меў дастаткова вялікую ступень персанальнай свабоды і не дарма абраў не прафесію вайскоўца, а доктара. Яго жонка — брытанская грамадзянка сірыйскага паходжання, што нават доўгі час рабіла яму імідж еўрапейскага палітыка.

Пасля смерці брата Башар, які на той момант заканчваў стажыроўку як медык у Вялікабрытаніі, вярнуўся ў Сірыю. Толькі тады з яго пачалі рабіць будучага прэзідэнта — спачатку накіравалі ў ваенную акадэмію, а за тры месяца да смерці бацькі прызначылі прэм'ерам.

Бацька Башара Хафез Асад памёр 10 чэрвеня 2000 года ад праблем з сэрцам. На наступны дзень пасля смерці сірыйскага лідара віцэ-прэзідэнт, які выконваў абавязкі прэзідэнта, прысвоіў Башару Асаду званне генерал-лейтэнанта і прызначыў яго вярхоўным галоўнакамандуючым. Адначасова сірыйскі парламент змяніў канстытуцыю, зменшыўшы мінімальны ўзрост кандыдата ў прэзідэнты з 40 да 34 гадоў адмыслова для абрання на гэту пасаду Башара Асада.

Аднак нават тое, што Башар не рыхтаваўся спецыяльна да пасады кіраўніка дзяржавы, здаецца, усё роўна не пазбавіла яго ад псіхічных праблемаў. Шмат псіхолагаў свету звярнулі ўвагу на абсалютна дзіўнае інтэрв'ю сірыйскага лідара агенцтву «ABC news» 7 снежня мінулага года. Башар Асад тады сказаў: «Мы не забіваем наш народ. Ніводны ўрад у свеце не забівае свой народ, калі толькі яго не ўзначальваe вар'ят», — сказаў ён, дадаўшы ў іншы момант: — «Не было каманды забіваць ці выяўляць жорсткасць».

Прэзідэнт Сірыі таксама дадаў: «Я — усяго толькі прэзідэнт. Я не з'яўляюся ўладальнікам гэтай краіны, і не я — гаспадар гэтых войскаў». Кажучы пра падраздзяленні, якія падаўляюць сілай паўстанні ў сірыйскіх гарадах, сірыйскі галоўнакамандуючы яшчэ раз паўтарыў: «Яны не мае».

Супярэчлівасць гэтых слоў відавочная. Нават афіцыйныя СМІ саюзных да Дамаску дзяржаў кшталту Расіі не аспрэчвалі змрочную статыстыку — з пачатку пратэстаў у Сірыі арміяй і паліцыяй было забіта каля 5 тысяч чалавек.

Доктар Джэральд Пост, дырэктар дэпартаменту палітычнай псіхалогіі ў універсітэце Джорджа Вашынгтона, каментуючы гэтую фразу Аль-Асада, заявіў, што яна па сутнасці рымэйк фразы Кадафі. Калі яшчэ толькі пачалося паўстанне ў Бенгазі, той казаў, што ён, як просты чалавек, «ні за што не адказвае ў гэтай краіне».

Джэральд Пост піша ў «Foreign Policy»: «Магчыма, лепшае параўнанне для Башара — гэта афіцыйны пераемнік Кадафі яго сын Сейф, з якім звязвалі надзею на магчымую мадэрнізацыю краіны. Сейф пасля заканчэння Лонданскай школы эканомікі быў сваім чалавекам на Захадзе. Ён нават дабіўся адмены рэжыму ізаляцыі Лівіі. Аднак, калі ў краіне пачаліся пратэсты, ён стаў на бок бацькі і так моцна яго абараняў, што заслужыў павестку ў Міжнародны крымінальны суд. Услед за сваім бацькам ён пакляўся змагацца да апошняга патрона. Уся праблема ў тым, што Башар, як і Сейф, нягледзячы на еўрапейскі выгляд, не атрымаў у дзяцінстве ад бацькоў уроку пра тое, што гвалт — не адзіная форма рэакцыі на пратэст».

З іншага боку, псіхічная хвароба сына дыктатара (калі гэта праўда) можа быць ключом для выхаду Сірыі з крызісу. «Cicero» робіць парадаксальную выснову: эрзацамі аўтарытэтнага бацькі для Башара, на думку газеты, могуць выступіць моцныя саюзнікі. Гаворка пра Расію і Кітай, якія на днях заблакавалі ў Асамблеі Бяспекі ААН праект рэзалюцыі пра ўвядзенне ў Сірыю блакітных шлемаў. Праблема, аднак, у тым, што пакуль патэнцыйныя «бацькі», здаецца, таксама не гатовыя да таго, каб растлумачыць Башару дзіцячую ісціну: забіваць людзей — гэта дрэнна.

МЕРКАВАННЕ

# КАНЕЦ ПУЦІНЮГЕНДА

**Адыёзная прапуцінская групоўка «Нашы», якую ў народзе празвалі Пуцінюгенд, на парозе знікнення. Чаму Крэмль адмовіўся ад свайго дзіцяці, і ці значыць гэта перагляд усёй унутранай палітыкі? Пра гэта журналіст «НЧ» Алег Новікаў размаўляе з маскоўскім журналістам Сяргеем Пузыровым.**




***— Наколькі вялікую ролю адыгрываў рух «Нашы» ў моладзевай палітыцы расійскіх уладаў?***

— Каб адказаць на гэта пытанне, дастаткова згадаць грандыёзную маніфестацыю «нашыстаў» у маі 2005 года, калі на 60-ю гадавіну перамогі на Ленінскі праспект прывезлі з усёй краіны 60 тысяч чалавек. «Нашы», як і ВЛКСМ у савецкі час, павінны былі інтэграваць моладзь у адзіны лаяльны да ўлады палітычны праект. Аднак існаваў іншы бок дзейнасці арганізацыі, якой даручалі самую брудную працу ў барацьбе з апазіцыяй — пісаць паклёпы ў ЖЖ, пікетаваць пад’езды, дзе жывуць дысідэнты, атакаваць сайты эстонскага ўраду падчас канфлікту вакол бронзавага помніка ў Таліне. Ёсць чуткі, напрыклад, што менавіта «нашысты» ўдзельнічалі ў правакацыі супраць Нямцова, калі яму пляснулі ў твар нашатырны спірт… Пры гэтым рух «Нашы» атрымаў абсалютную індульгенцыю на свае выхадкі. Ніводнага разу «Нашых» не прыцягвалі да адказнасці.

***— Нельга ўявіць рух «Нашы» без яго правадыра Васіля Якеменкі. Чаму менавіта яму даверылі ўзначаліць арганізацыю?***

— Васіль Якеменка, якому хутка будзе 41 год, — незвычайны для расійскай палітыкі персанаж, паколькі чыстым кар’ерыстам-апаратчыкам яго назваць нельга. Ніводны чыноўнік не рызыкнуў бы рабіць такія рэчы, як ён, — напрыклад, паліць або тапіць ва ўнітазе кнігі Пялевіна і Сарокіна. Аднак на фанатычнага пуцінца ён таксама не цягне, паколькі не мог не бачыць, што яго «хунвейбіны» змагаюцца з «аранжавай чумой» выключна за грошы і матэрыяльныя выгоды. Вось такая мікстура цынізму і прагматызму. Аднак у пэўны час такая фігура аказалася запатрабаванай. Адразу пасля кіеўскага Майдану ў прэсе з’явілася інфармацыя пра тое, што Крэмль перайшоў да стварэння моладзевых арганізацый, накіраваных на прадухіленне магчымых вулічных выступаў апазіцыі падчас прэзідэнцкай кампаніі 2008 года. Вось тут і згадалі пра Якеменку з яго ініцыятывай «Идущие вместе», якая праславілася агрэсіўным стаўленнем да антыпуціністаў. Тым больш, што яе лабіраваў галоўны крамлёўскі паліттэхнолаг Суркоў. У 2005 годзе групу рэарганізавалі ў рух «Нашы».

***— Наколькі вялікія сродкі ішлі на падтрыманне «нашыстаў»?***

— На днях хакеры ўзламалі паштовыя скрыні Якеменкі, а таксама прэс-сакратара руху «Нашы» Крысціны Патупчык. Сярод іншых матэрыялаў там была таблічка выплаты заробкаў лідарам пракрамлёўскіх моладзевых арганізацый. Зарплата ў іх досыць высокая. Мяркуйце самі. Напрыклад, вядомы «нашыст» Іван Косаў быццам атрымлівае заробак 70 тысяч рублёў (больш за 2 тысячы долараў). Гэта толькі грошы, якія ідуць у якасці зарплаты, не лічачы дадатковага прыбытку. Ёсць дакумент, у якім апісваецца акцыя па легітымізацыі выбараў Пуціна ў грамадскай свядомасці, на якую за два месяца плануецца патраціць 36 мільёнаў рублёў. Па дадзеных газеты «Ведомости», усяго ў 2007–2010 гадах па дзяржаўных кантрактах і ў выглядзе грантаў «Нашы» і створаныя імі арганізацыі атрымалі 467 мільёнаў рублёў (каля 15 мільёнаў долараў).

***— Нягледзячы на такія сумы, 25 снежня Якеменку нечакана здымаюць з пасады Федэральнага агенцтва па справах моладзі («Росмолодежь»), што шматлікія каментатары разглядаюць як пачатак канца яго кар’еры і ўсяго праекту «Нашы». Чаму ў Крамлі вырашылі адмовіцца ад паслуг Якеменкі?***

— Самі «нашысты» кажуць, што Васіль Якеменка зараз шмат часу надае падрыхтоўцы акцый у падтрымку Уладзіміра Пуціна, і таму пайшоў у адстаўку. Аднак такую думку падзяляе меншасць. Адна з версій — адмоўны эфект, які выклікалі ў грамадстве пастановачныя масавыя акцыі на мітынгу ў падтрымку перамогі «Адзінай Расіі» на парламенцкіх выбарах 4 снежня. Акрамя таго, Якеменка напрацаваў сабе такі адыёзны імідж, што ўладам пры першай пагрозе давялося ім ахвяраваць, каб супакоіць грамадства. Сваю ролю ў тым, што «Нашых» зліваюць, адыграла і тая ўцечка інфармацыі з паштовых скрыняў функцыянераў руху. Так, у перапісцы Патупчык знойдзена таблічка з планам дэстабілізацыі працы выдання «Коммерсант» шляхам атак на яго сайт. У сувязі з гэтым дырэктар выдавецкага дому «Коммерсант» ужо запатрабаваў распачаць крымінальную справу супраць руху «Нашы» і Крысціны Патупчык асабіста. У 2008 годзе сайт выдання сапраўды атакавалі невядомыя хакеры.

***— Ці ёсць у «Нашых» нейкая будучыня? Праект зможа існаваць без датацый улады?***

— Рух «Нашы», як і любы іншы пракрамлёўскі моладзевы рух, памрэ ў тую ж секунду, як толькі скончыцца яго фінансаванне і дзяржпадтрымка. А пасля сыходу Якеменкі, на мой погляд, яго падтрымліваць не будуць. Новы куратар «Россмолодежи» Вячаслаў Валодзін, які прыйшоў на месца Суркова, больш сімпатызуе «Маладой Гвардыі» (моладзевая структура партыі «Адзіная Расія», якая па сутнасці ўяўляе чыста кар’ерысцкае аб’яднанне). Самі «нашысты», калі верыць блогасферы, актыўна абмяркоўваюць магчымасць пераўтварэння руху «Нашы» ў самастойную партыю. Аднак ніякай канкрэтнай інфармацыі на гэты конт няма. І ўсё ж трэба пачакаць, калі закончацца выбары. Зараз уладам небяспечна распускаць рух «Нашы». Яго пакуль захаваюць, проста каб не губляць рэсурс, які можа спатрэбіцца. Тым больш, што Якеменка адказвае за масавыя прапуцінскія акцыі ў шматлікіх рэгіёнах.

***— Такім чынам, ставіць крыж на руху «Нашы» яшчэ рана?***

— Я думаю, верагоднасць таго, што гэты рух знікне, досыць вялікая. Калі ўжо такі монстр, як партыя «Адзіная Расія», рыхтуецца да рэбрэдынгу і стварэння на яе базе 3–4 партый, што можна казаць пра «нашых»… Праблема, аднак, у тым, што цалкам рэфармаваць «нашыстаў» нельга. Без харызмы Якеменкі і яго персанальных сувязей гэты праект знікне.

***— Як вядома, «Нашы» — не толькі Якеменка, аднак і Уладзіслаў Суркоў (галоўны паліттэхнолаг Крамля, якога знялі пасля выбараў з пасады намесніка кіраўніка адміністрацыі). З прозвішчам Суркова звязваюць мадэль дзяржаўнай унутранай палітыкі — так званая «кіруемая дэмакратыя». Ці варта чакаць ад Пуціна перагляду суркоўскай формулы?***

— Усё будзе залежаць ад таго, наколькі зменіцца палітычны расклад у ходзе выбараў. Аднак пакуль чалавека ўзроўню Суркова, які мог весці тонкую гульню, у крамлёўскай адміністрацыі няма. Застаецца прымітыўны адміністратыўны ціск, або асцярожны транзіт да лібералізацыі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ЮЛІЯ ЦІМАШЭНКА



Цяпер культавага лідара ўкраінскай апазіцыі, асуджаную за карупцыю, у праўрадавых СМІ называюць не толькі «Юлька-злодзейка», аднак таксама і «Юлька — лепшая сяброўка злодзеяў». Падставай для падобнай кампаніі стала плётка пра тое, што галоўныя крымінальныя аўтарытэты Украіны на нядаўняй сустрэчы быццам прынялі рэзалюцыю: Юлю на зоне не чапаць і забяспечыць ёй камфорт. У шматлікіх блізкіх да Партыі рэгіёнаў выданнях маляўніча распісваюцца кантакты Цімашэнкі з братвой, якія быццам бяруць свой пачатак яшчэ падчас яе першага знаходжання ў кіеўскім СІЗА. Гэтыя кантакты, быццам, былі працягнутыя падчас знаходжання Юліі на пасадзе прэм’ера. Прапаганда наконт «Юліі — лепшай сяброўкі злодзеяў» пакуль слаба працуе. Інакш бы яе партыя «Бацькаўшчына» не засталася самай папулярнай у краіне. У сваю чаргу, апазіцыянеры запусцілі контр-тэзіс: калі бандыты дыктуюць свае ўмовы працаўнікам турмаў, тады ў гэтай улады справы зусім кепскія.

### АЛЬЯНТА УМАЛА



Прэзідэнт Перу святкуе захоп у палон апошняга кіраўніка мааісцкага партызанскага руху «Светлы шлях» («Sendero Luminoso»). Арыштаваны таварыш Артэміа — мянушка паўстанца Фларында Хала. Яго злавілі ў выніку трохдзённых баёў у сельве. Прычым аперацыяй кіраваў асабіста перуанскі гарант, вайсковец па прафесіі. 13 лютага — дзень арышту Умала — названы апошнім днём у гісторыі перуанскага тэрарызму. Між тым, апазіцыя лічыць, што перабольшваць значэнне арышту Артэміа не трэба. Апагей дзейнасці «Sendero Luminoso» застаўся ў 1980-х гадах, калі іх падтрымлівалі 15 працэнтаў перуанцаў, а групоўка кантралявала амаль палову краю. У атрадзе Артэміа было ўсяго восем байцоў і, адпаведна, ніякай сур’ёзнай пагрозы яго фармаванне не ўяўляла. Больш таго, у сваіх апошніх інтэрв’ю партызан рэгулярна заклікаў улады да пачатку дыялогу. Застаецца сказаць, што «Sendero Luminoso» цалкам не дабітая. Яшчэ ў 1980-я гады ад яе адкалолася фракцыя, якая насуперак дырэктывам кіраўніцтва ўстанавіла кантакты з наркамафіяй. Гэтая банда дасюль дае паслугі для арганізатараў трафіку наркотыкаў.

### ШОН ПЭН

Славуты галівудскі актор умяшаўся ў аргенцінска-брытанскі канфлікт за кантроль над Мальвінскімі (Фальклендскімі) астравамі. Будучы ў Буэнас-Айрэсе падчас сустрэчы з прэзідэнтам Крысцінай Кірхнер, ён абвінаваціў Лондан у «смешным імперыялізме» і паабяцаў дапамагчы Аргенціне вярнуць архіпелаг праз структуры ААН. Акцёр таксама заклікаў усіх людзей з прагрэсіўнымі поглядамі адмовіцца называць астравы на ангельскі манер «Фалькледы». Актор прапануе ўжываць аргенцінскі варыянт назвы — «Мальвіны». Між тым, англійскія газеты пішуць, што Шон Пэн выкарыстаў тэму Мальвінаў выключна для таго, каб атрымаць ад Аргенціны дапамогу для ахвяр землятрусу на Гаіці, якое здарылася ў 2010 годзе. Пэн з’яўляецца каардынатарам кампаніі ў дапамогу гаіцян і нават атрымаў дыпламатычны тытул пасла Гаіці ва ўсім свеце. Акрамя таго, Пэн павінен ведаць, што абсалютная большасць жыхароў востраву — выхадцы з Вялікабрытаніі, якія жадаюць заставацца падданымі брытанскай каралевы, і патрабаванне самавызначэння для архіпелагу гучыць трошкі смешна.



▸ ТАЯМНІЦЫ ГІСТОРЫІ

# ЗАБОЙСТВА ВІЛЬГЕЛЬМА КУБЭ

Анатоль ВАЛАХАНОВІЧ

◂ Заканчэнне.
Пачатак у №№ 42–47, №1–6

Парпануем дакумент, які раней без купюр яшчэ не друкаваўся.

**Заключительное донесение по вопросу о покушении на генерального комиссара Белоруссии,гауляйтера майора запаса Вильгельма Кубе в ночь на 22.9.1943 г.**
**Секретно**

*«В ночь на 22.9.43 г. в 00 час.40 мин. в спальне генерального комиссара и гауляйтера Вильгельма Кубе взорвалась мина, в результате чего у него разорвало левую сторону груди и оторвало левую руку. Ранения были, безусловно, смертельные. Его труп в полуобгоревшем состоянии был вынесен из охваченной пожаром спальни поднятой по тревоге дежурной командой и служащими газовой команды.*

*Рядом с ним лежала жена Анита Кубе, урожд. Линденколь, которая была на 8-м месяце* [на 9-м месяце — А.В.] *беременности. Она осталась невредимой и отделалась только нервным шоком. Его трое маленьких детей, которые находились в другой комнате, отделенной от спальни ванной, спали и остались также невредимыми.*

*От удара взрывной волны обстановка спальни была почти полностью разбита. Находящийся в Минске на Театральной улице, №27 жилой дом, который граничил непосредственно со зданием генерального комиссариата, внешне не пострадал.*

*При осмотре места происшествия немедленно назначенной «Большой специальной комиссией», состоящей из штурмбанфюрера СС и криминал-советника Бондорфа (Bondorf) — в качестве руководителя, а также представителей из сектора уголовной полиции оберштурмфюрера СС Брейера (Breyer) и сектора государственной полиции — оберштурмфюрера СС и криминал-комиссара Хайса (Heiss), во время просеивания мусора и обломков были обнаружены и изъяты материальные остатки.*

*Руководствуясь материалами расследований, проведенных подобными особыми комиссиями по поводу взрывов мин в различных важных немецких учреждениях, оберштурмфюрер СС Брейер установил, что в данном случае речь идет об остатках замедлителя магнитной мины неопределенного срока действия английского происхождения.*

*Примененная мина, при проверке на месте происшествия, несомненно, была установлена примерно за 12 часов на выступающих пружинах матраца металлической кровати гауляйтера Кубе и там взорвалась. За это предположение говорит также характер ранения гауляйтера. Действие мины было ослаблено матрацем и телом гауляйтера. Этим можно объяснить также невредимость его жены.*

*Так как дом гауляйтера день и ночь охранялся собственной охраной из 12 человек полиции (Ordnungpolizei), вопрос встал, прежде всего, только о тесном круге лиц, состоявшем из обслуживающего персонала и входящих в дом лиц.*

*Дознание ограничилось в первую очередь на немедленной установке этого круга лиц, которые в течение последнего времени перед покушением что-либо делали в доме гауляйтера.*

*На месте происшествия были задержаны работающие и занятые в домашнем хозяйстве четыре горничные.*

*Их проверка вначале не показывала какой-либо связи их с покушением.*

*Уже утром 22.9.43 г. было установлено, что единственная, живущая из-за недостатка мест вне дома, служанка Елена Мазаник, 4.4.14 г.р. (имя Карина), проживающая в Минске, по ул. Театральной, №48, кв.10, дома отсутствовала.*

*Так как такие существенные обстоятельства дали известные основания подозревать Мазаник, ее квартира была вскрыта. Оказалось, что квартира была почти полностью очищена.*

*Ее сестра, ведущая совместно с ней домашнее хозяйство, Валентина Щутская, 1918 г.р. (имя Валя), также отсутствовала.*

*Расследование между тем на установленном месте службы сестры (казино немецкого суда в Минске) показало, что Щ. якобы из-за болей, вызванных спазмами сосудов, 21.9.43 г. в 10.30 оставила свое рабочее место. Чтобы ей не нужно было в дальнейшем возвращаться на работу, она перед своим уходом попросила предоставить ей 21.9.43 г. выходной день.*

*При дальнейшем расследовании у различных доверенных лиц, которые имели контакт с Щ., было выяснено, что М., хотя и поддерживала отношения с немцами, очевидно с целью разведки, высказывалась антинемецки.*

*Так, недавно при своей подруге она выразилась, что горда тем, что она русская, и что русские при советской власти имели много больше, чем при немцах.*

*Также было установлено, что ее первый муж был расстрелян немцами как партизан* (на самай справе, муж яе сястры — А.В.)*, и что ее второй муж работал шофером в НКВД г. Минск.*

*Она сама выдавала себя доверенному лицу как служащую Центрального комитета НКВД. Поэтому предположение, что только Мазаник могла быть преступницей, было правильным. Это предположение в дальнейшем расследовании было подкреплено.*

*Что существовала тесная связь Мазаник с НКВД, проясняет то обстоятельство, что М. пыталась некую Галину Липскую, из круга своих знакомых, завербовать для шпионской деятельности против немецких войск. Липская, однако, это предложение отклонила. Свое положение в доме гауляйтера М. определенно использовала в целях разведки, т.к. она неоднократно имела возможность убирать служебный кабинет гауляйтера.*

*В связи с этим особо привлекает внимание то, что, пожалуй, для всех остальных служащих дома, но не для М., генеральный комиссар вносил предложения проверки через гестапо.*

*Подобная проверка (в отношении ее), таким образом, не состоялась.*

*Свое бегство обе сестры маскировали тем, что уже за несколько дней до покушения продавали свои пожитки и остальные носильные вещи. Мазаник пришла 21.9.43 г. как обычно в 7 часов утра на работу в дом гауляйтера, жаловалась остальным работницам на сильную зубную боль и в 10.30 оставила дом. Свой преждевременный уход она маскировала, как и ее сестра Щ., а именно через свою подругу она просила фрау Кубе о перенесении ей выходного дня 21.9.43 г.*

*Она лечила зубы, по особому распоряжению гауляйтера, несмотря на то, что была белорусской, у немецкого врача, однако 21.09.43 г. она к врачу не пришла.*

*При дальнейшей проверке круга знакомых обеих сестер натолкнулись якобы на любовника Мазаник по имени Степан, который был установлен в лице Стефана Тиллера, руководителя почтового отделения в генеральном комиссариате.*

*Теперь, благодаря этому, возникла возможность установить деревню вблизи Минска, куда обе сестры ездили ухаживать за матерью.*

*В этой деревне — Малая Масюковщина — был действительно установлен дом матери, однако он оказался закрыт и совершенно пуст. Ключи были переданы родственнице семьи сестер, некой Анне Рулькевич, где они действительно были установлены.*

*Расследованием было установлено, что все имущество вывезли два возчика, из которых один был установлен в соседней деревне Потреби как некий Павел Кароль.*

*По его сообщению и с его помощью удалось установить квартиру в предместье Минска — ул. Заславская, №35а, кв. 6.*

*Владелица этой квартиры сначала отрицала, что приняла беглецов, однако после долгой лжи и очной ставки призналась, что она действительно за плату в 100 рейхсмарок приняла их, а имущество отдала своему соседу Николаю Дрозду.*

*Беглецами были Валентина Щ. и ее мать Анна Щ., а также оба малолетних ребенка первой. При обыске в доме Дрозда была действительно найдена различная одежда в замурованном потайном подвале.*

*Среди вещей находилось также темно-голубое пальто, которое было безоговорочно опознано служанкой гауляйтера Галиной Вигал как собственность Мазаник.*

*Позже в деревянном сарае в штабеле дров были найдены два детонатора, которые, по показаниям Дрозда, принесла некая Мария, по прозвищу Черная Мария, позже установлена как Мария Осипова, примерно 30 лет. Приметы: 30 лет, рост 1 м 75 см, гибкая, черные волосы, смуглое длинное лицо.*

*Хозяин усадьбы Николай Дрозд, 15.8.1886 г.р., а также его жена Елена Дрозд 1890 г. р. и их дочь Регина Дрозд 16.10.23 г.р. были арестованы незадолго до их подготовленного бегства.*

*Дрозд признался, что 18.9.43 г. Мария Осипова и Мария Дуброва ждали его на мосту в Минске, когда он возвращался из деревни Вячи со сбора ягод домой, и он получил от них две мины.*

*Эти мины он принес в свой дом, где они были спрятаны Осиповой в саду.*

*Находившаяся под арестом Дуброва вынуждена была подтвердить, что эти данные соответствуют действительности, и что она получила эти мины в лесу недалеко от деревни Вячи от неизвестного мужчины. Этот неизвестный мужчина относился, по словам Дубровой, к партизанам.*

*В ходе дознания было далее установлено, что Осипова с апреля с.г. жила у Дрозда и неоднократно предпринимала так называемые служебные поездки. Также она во время своего проживания у Дрозда развернула сильную антинемецкую пропаганду и в этом смысле авторитетно действовала, отчасти с успехом, на круг своих знакомых.*

*Далее она поддерживала связь с некой Тоней (приметы: примерно 40 лет, среднего роста, гибкая, волосы соломенного цвета, зачесанные на пробор, лицо в оспинах, в черном платке, темная одежда и черные сапоги), которая не была установлена, но, очевидно, также относится к партизанам. Тоня и Мария Осипова имели общие дела и были часто вместе. Тоня должна была также знать семью Щ., т.к. она ожидала ее 20.9.43 г. и содействовала в устройстве на ночлег.*

*Тоня и Осипова провели ночь на 21.9.43 г. у Дрозда. Осипова оставила квартиру Дрозда 21.9.43 г. в 5.30 утра, в то время как Тоня в тот же день в 6 часов утра вместе с беглецами и возчиком, которого не удалось установить, уехала в направлении Минска.*

*Известно, что Щ. вышла на работу в немецкий суд в 7 утра.*

*В 11 часов утра Осипова вернулась к Дрозду и вскоре после этого оставила дом якобы для того, чтобы предпринять снова служебную поездку. Дрозд показал, касаясь Осиповой, что речь идет о чрезвычайно деятельном агенте партизан.*

*Она предлагала его и его семью в случае преследования переправить в Москву.*

*Нет сомнения, что Мария Осипова 21.9.43 г. утром принесла мины в Минск и там лично или через связного передала их Мазаник, которая в это время еще находилась в своей квартире на Театральной улице, 48.*

*Этот связной был установлен в лице Георгия Куликова, 28.5.14 г.р., в задачу которого входило передача писем и пакетов Мазаник и Осиповой.*

*В дальнейшем его задача заключалась в том, чтобы разведывать для Осиповой настроения населения, немецких частей, месторасположения отдельных подразделений вермахта и разные важные события.*

*При этом ему содействовал некий Владимир Сибко, 17.11.12 г.р. Работая музыкантом в «немецком доме», он выполнял свои задания, заставляя знакомых официанток показывать ему письма от немецких солдат, выписывая из них отдельные номера полевых почт и другие важные подробности, а также всеми путями пытаясь заполучить сведения о немецких войсках. Оба были арестованы.*

*Свою деятельность они продолжали длительное время и передавали материалы Осиповой через Галину Липскую, 26.1.19 г.р.*

*Липская, пожалуй, знала о делах Осиповой и ее связных, однако ее разведывательная деятельность сводилась только к дальнейшей передаче материалов.*

*В связи с арестом Куликова и Сибко была раскрыта широко разветвленная и хорошо организованная разведывательная служба партизан и тех, что стоят за ними.*

*Были выявлены важные следы, которые указывали на новое покушение и на других связников-разведчиков, которые будут, однако, преследованы в рамках особого процесса.*

*Что касается задержанного Куликова, то его следует рассматривать вместе с Марией Осиповой как лиц, вручивших Мазаник мину, предусмотренную для покушения на гауляйтера, так как было точно установлено, что, наряду со своей шпионской деятельностью, он часто бывал на квартире у Мазаник и постоянно приносил туда пакеты и почту.*

*У бывшего любовника Мазаник, Стефана Тиллера, была изъята годная к репродукции ее фотография.*

*Проводившийся розыск Мазаник и ее родственников, а также Марии Осиповой и Тони не мог быть успешным, так как вышеназванные* [лица — А.В.] *после выполнения своего специального задания с помощью Осиповой были отправлены в Москву на самолете из ближайшей партизанской области.*

*Осипова использовала также в качестве связного Марию Дуброву, которая, без сомнения, как закоренелая коммунистка получала от нее задания.*

*Так, при заключительном обыске в ее квартире были обнаружены спрятанные между досок пакетики с пятью бумажными облатками, содержащими стрихнин. Химический анализ точно показал, что это был смертельно действующий яд.*

*Принимая во внимание тесную связь вышеуказанных лиц, можно почти с 100-процентной уверенностью сделать вывод, что в случае неудачи покушения с миной, вся семья Кубе должна была быть отравлена стрихнином. Количество изъятого яда хватило бы, чтобы отравить более 100 человек.*

*Далее, при помощи работавшей на кухне немецкого суда Щ., имелась возможность подмешать яд в отпускаемые блюда.*

*Оценка всех сторон дела показывает, что Мария Осипова — лицо, действующее по заданию Москвы и именно НКВД.*

*Непосредственная исполнительница — Елена Мазаник, как уже упоминалось, также имеет отношение к НКВД.*

*Сведения о жизни и обычаях семьи Кубе и другие важные происшествия, вследствие рода работы Мазаник, легко передавались в Москву.*

*Дрозда и Дуброву необходимо рассматривать как закоренелых коммунистов.*

*Куликова и Сибко они использовали в качестве подвижных связных.*

*Находящиеся под арестом родственники Дрозда (жена и дочь) знали о преступной деятельности вышеуказанных лиц.*

*Липская — соучастница, однако она отклоняла всякую активную разведывательную деятельность.*

*Задержанный в ее квартире Леонид Етишко, 17.9.17 г.р., по расследованию, не имеет никакого отношения к делу. Он не имеет постоянного занятия, и поэтому вопрос стоит о его использовании на работах.*

*Так же необходимо поступить и с Липской. К арестованным, за исключением Липской и Етишко, я предлагаю применить острейшие средства государственной полиции.*

*Случай должен быть передан в IV отдел для дальнейшей обработки и использования.*

*Командир DS Pad SD Белоруссии распорядился распустить Большую специальную комиссию (GSK) к 29.9.43 г.*

*Бондорф, штурмбаннфюрер СС и криминал-советник, руководитель Большой специальной комиссии».*

***

Я лічу мэтазгодным адзначыць прапушчаных ва Указе Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 29 кастрычніка 1943 года людзей узнагародамі нашай краіны — Рэспублікі Беларусь. Гэта могуць быць мемарыяльныя дошкі, помнікі, назвы вуліц у новых мікраёнах гарадоў. Трэба ушанаваць памяць патрыётаў-антыфашыстаў, напісаць кнігі, артыкулы пра іх подзвігі.

Гэты артыкул чытаў унучаты пляменнік Мазанік. Пытанняў па тэксту ў яго не ўзнікла. Ён дадаўся шмат новага для сябе, што яму не расказвала бабка.

ЗМРОЧНАЯ ГАДАВІНА

# ВЯЛІКІ ТЭРОР

Ігар КУЗНЯЦОЎ



**Семдзесят пяць гадоў таму, па рашэнні вышэйшых партыйных органаў, у СССР разгарнулася чарговая крывавая «чыстка», якая доўжылася амаль два гады. У гістарычнай публіцыстыцы гэта рэпрэсіўная кампанія нярэдка называецца Вялікім Тэрорам.**

Камуністычная дыктатура заўсёды — і да, і пасля 1937 года — суправаджалася палітычнымі рэпрэсіямі. Аднак менавіта Трыццаць Сёмы стаў у памяці людзей злавесным знакам сістэмы масавых забойстваў, якія арганізоўваліся і праводзіліся дзяржаўнай уладай. На працягу 1937–1938 гадоў па палітычных абвінавачваннях у СССР было арыштавана больш за 5 мільёнаў чалавек, у тым ліку ў БССР больш за 600 тысяч.

Здзекі і забойствы насілі планавы характар. У 1920–1950 гады толькі ГУЛАГ паглынуў больш за 500 тысяч выхадцаў Беларусі. З улікам іншых катэгорый афіцыйна і неафіцыйна рэпрэсаваных гэта лічба перавышае 1,6 мільёна. Неймаверна: найбольш здольнае да творчай і прадуктыўнай працы насельніцтва вялікага еўрапейскага горада, параўнальнага з сённяшнім Мінскам, было кінутае ў апраметнае пекла ГУЛАГа.

У многіх выпадках рэпрэсіі насілі характар генацыду беларусаў. З самага пачатку ўтварэння БССР і да 1953 года ў Беларусі была знішчана амаль уся «дарэвалюцыйная» свядомая, культурная, адукаваная інтэлігенцыя. Калі б не гэтыя страты, сёння ў нас была б зусім іншая краіна. Негатыўнае стаўленне ўладаў да нацыянальных каштоўнасцяў, на жаль, ператварылася ў тэндэнцыю, якая захоўваецца да гэтага часу.

Трыццаць Сёмы — гэта неверагодная жорсткасць прысудаў: больш за 3 мільёны расстраляных у СССР, у тым ліку больш за 250 тысяч — у БССР.

29 кастрычніка 1937 года — асабліва цяжкі і трагічны дзень у гісторыі беларускага народа. Толькі за адну ноч у Мінску сталінскія апрычнікі расстралялі 107 выбітных прадстаўнікоў творчай і навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі. Іх жонак, дзяцей і блізкіх сваякоў кінулі ў канцэнтрацыйныя лагеры. Знішчэнне інтэлектуальнай эліты нашай нацыі было праведзена і ў абласных гарадах.

Трыццаць Сёмы — гэта беспрэцэдэнтная планавасць рэпрэсіўных «спецаперацый». Уся кампанія была загадзя старанна прадуманая вышэйшым палітычным кіраўніцтвам СССР і праходзіла пад яго пастаянным кантролем. У сакрэтных загадах НКУС вызначаліся тэрміны правядзення асобных аперацый, групы і катэгорыі насельніцтва, якія падпадалі «чысціць», а таксама «ліміты» — планавыя лічбы арыштаў і расстрэлаў па кожным рэгіёне. Любыя змены, любыя «ініцыятывы знізу» павінны былі ўзгадняцца з Масквой і атрымліваць яе ўхвалу.

Рэпрэсіі грунтоўна закранулі, у прыватнасці, прадстаўнікоў новых беларускіх эліт — палітычнай, ваеннай, гаспадарчай. Расправа з людзьмі, імёны якіх былі вядомыя ўсёй краіне (менавіта пра іх у першую чаргу паведамлялі газеты) і ў лаяльнасці якіх не было ніякіх падстаў сумнявацца, павялічвала паніку і пагаршала масавы псіхоз. Пасля нарадзіўся нават міф пра тое, што Вялікі Тэрор быццам бы быў накіраваны выключна супраць старых бальшавікоў і партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва. Насамрэч, пераважная большасць арыштаваных і расстраляных — простыя савецкія грамадзяне, беспартыйныя і ні да якіх эліт не належалі.

Трыццаць Сёмы — гэта невядомыя сусветнай гісторыі маштабы фальсіфікацыі абвінавачванняў. У 1937–1938 гадах магчымасць арышту вызначалася, галоўным чынам, прыналежнасцю да якой-небудзь катэгорыі насельніцтва, паказанай у адным з «аператыўных загадаў» НКУС, ці сувязямі — службовымі, роднаснымі, сяброўскімі — з людзьмі, арыштаванымі раней. Фармуляванне індывідуальнай «віны» было клопатам следчых. Таму сотням і сотням тысяч арыштаваных прад'яўляліся фантастычныя абвінавачванні ў «контррэвалюцыйных змовах», «шпіянажы», «падрыхтоўцы да тэрарыстычных актаў», «дыверсіях» і да т.п.

Трыццаць Сёмы — гэта адраджэнне ў XX стагоддзі нормаў сярэднявечнага інквізіцыйнага працэсу, з усёй яго традыцыйнай атрыбутыкай: завочнасцю (у пераважнай большасці выпадкаў), квазісудовай працэдурай, адсутнасцю абароны, фактычным аб'яднаннем у рамках аднаго ведамства роляў следчага, абвінаваўцы, суддзі і ката. Зноў, як у часы інквізіцыі, галоўным доказам стала рытуальнае «прызнанне сваёй віны» самім падследным. Імкненне дамагчыся такога прызнання ў спалучэнні з адвольнасцю і фантастычнасцю абвінавачванняў прывялі да масавага ўжывання катаванняў; улетку 1937 года катаванні былі афіцыйна санкцыянаваныя і рэкамендаваныя як метад вядзення следства.

Трыццаць Сёмы — гэта надзвычайны і зачынены характар судавоства. Гэта таямніца, якая ахінула адпраўленне «правасуддзя», гэта непранікальная сакрэтнасць вакол расстрэльных палігонаў і месцаў пахаванняў пакараных. Гэта сістэматычная шматгадовая афіцыйная хлусня пра лёсы расстраляных: спачатку — пра міфічныя «лагеры без права перапіскі», затым — пра смерць, якая наступіла быццам бы ад хваробы, з указаннем фальшывых датаў і месца смерці.

Трыццаць Сёмы — гэта кругавая парука, якой сталінскае кіраўніцтва імкнулася павязаць увесь народ. Па ўсёй краіне праходзілі сходы, на якіх людзей прымушалі бурна апладзіраваць публічнай хлусні пра выкрытых і абясшкоджаных «ворагаў народа». Дзяцей змушалі адракацца ад арыштаваных бацькоў, жонак — ад мужоў.

Гэта злавесная абрэвіятура «ЧСИР» — «чалец сям'і здрадніка Радзімы», якая сама па сабе з'явілася прысудам да зняволення ў адмысловыя лагеры для дваццаці тысяч удоў, чые мужы былі пакараныя па рашэнні Ваеннай Калегіі Вярхоўнага суда. Гэта сотні тысяч «сірот Трыццаць Сёмага» — людзей з выкрадзеным дзяцінствам і паламаным юнацтвам.

Гэта канчатковая дэвальвацыя каштоўнасці чалавечага жыцця і свабоды. Гэта культ чэкізму, рамантызацыя гвалту, абагаўленне ідала дзяржавы. Гэта эпоха поўнага зрушэння ў народнай свядомасці ўсіх прававых паняццяў.

**Трыццаць Сёмы — гэта кругавая парука, якой сталінскае кіраўніцтва імкнулася павязаць увесь народ. Дзяцей змушалі адракацца ад арыштаваных бацькоў, жонак — ад мужоў**

Нарэшце, Трыццаць Сёмы — гэта фантастычнае спалучэнне вакханаліі тэрору з нястрымнай прапагандысцкай кампаніяй, якая ўсхваляла самую дасканалую ў свеце савецкую дэмакратыю, самую дэмакратычную ў свеце савецкую Канстытуцыю, вялікія здзяйсненні і працоўныя подзвігі савецкага народа. Менавіта ў 1937 годзе канчаткова сфармавалася характэрная рыса савецкага грамадства — двудумства, следства раздваення рэальнасці, навязанае прапагандай грамадскай і індывідуальнай свядомасці.

І цяпер, праз семдзесят пяць гадоў, у стэрэатыпах грамадскага жыцця і дзяржаўнай палітыкі Беларусі выразна заўважаецца згубны ўплыў як самой катастрофы 1937–1938 гадоў, так і ўсёй той сістэмы дзяржаўнага гвалту, знакам і квінтэсенцыяй якога сталі гэтыя гады. Гэта катастрофа ўвайшла ў масавую і індывідуальную падсвядомасць, пакалечыла псіхалогію людзей, абвастрыла застарэлыя хваробы нашага менталітэту, атрыманыя ў спадчыну яшчэ ад Расійскай імперыі, спарадзіла новыя небяспечныя комплексы.

Непераадолены досвед Вялікага Тэрору — гэта:

- адчуванне мізэрнасці чалавечага жыцця і свабоды перад балванам улады;
- звычка да «кіраванага правасуддзя», праваахоўныя органы, якія падпарадкоўваюць сваю дзейнасць не норме закона, а загадам начальства, — гэта відавочная спадчына Вялікага Тэрору;
- імітацыя дэмакратычнага працэсу пры адначасовым выхалошчванні асноўных дэмакратычных інстытуцый і адкрытым грэбаванні правамі і свабодамі чалавека, парушэнні Канстытуцыі, што здзяйсняюцца пад акампанемент клятваў у шчырай адданасці канстытуцыйнаму парадку;
- рэфлекторная непрыязнасць сённяшняга бюракратычнага апарата да незалежнай грамадскай актыўнасці, беспярапынныя спробы паставіць яе пад жорсткі дзяржаўны кантроль;
- уваскрашэнне ў сучаснай беларускай палітыцы старой канцэпцыі «варожага асяроддзя», падазронасць і варожасць да ўсяго замежнага, істэрычны пошук «ворагаў» за мяжой і «пятай калоны» ўнутры краіны;
- інтэлектуальны канфармізм, боязь усялякай «іншасці», адсутнасць звычкі да свабоднага і незалежнага мыслення, схільнасць да хлусні;
- нястрымны цынізм — адваротны бок двудумства, ваўчыная лагерная мараль («памры ты сёння, а я заўтра»), страта традыцыйных сямейных каштоўнасцяў;
- катастрафічная раз'яднанасць людзей, стаднасць, якая падмяніла калектывізм, востры дэфіцыт чалавечай салідарнасці.

Зразумела, сёння спадчына Вялікага Тэрору не ўвасабляецца і наўрад ці можа ўвасобіцца ў ранейшым маштабе — мы жывём у зусім іншую эпоху. Але гэта спадчына, не асэнсаваная грамадствам, і, такім чынам, не пераадоленая ім, лёгка можа стаць праклёнам цяперашняга і будучых пакаленняў, якія прарываюцца вонкі то ў выглядзе дзяржаўнай маніі велічы, то ўзнаўленнем шпіёнаманіі, то рэцыдывамі рэпрэсіўнай палітыкі.

Апошнія два дзесяцігоддзі паказалі, што найперш патрэбныя публічны разгляд і асэнсаванне палітычнага тэрору савецкага перыяду з прававых пазіцый.

**Неабходна** забяспечыць спрыяльныя ўмовы для працягу і пашырэння даследчай працы па гісторыі дзяржаўнага тэрору ў БССР. Варта зняць усе штучныя і неабгрунтаваныя абмежаванні доступу да архіўных матэрыялаў, што датычаць палітычных рэпрэсій, якія дзейнічаюць цяпер.

**Неабходна** зрабіць агульным здабыткам сучасныя гістарычныя веды пра эпоху тэрору: стварыць нарэшце падручнікі гісторыі для школ і ВНУ, у якіх тэме палітычных рэпрэсій (і ў прыватнасці, Вялікаму Тэрору) было б нададзена месца, якое адпавядае іх гістарычнаму значэнню.

**Неабходны** асветныя і культурныя праграмы, прысвечаныя гэтай тэме, на каналах тэлебачання неабходна дзяржаўная падтрымка для выдавецкіх праектаў па выпуску навуковай, асветнай, мемуарнай літаратуры, прысвечанай тэрору.

**Неабходна** стварыць агульнанацыянальны Музей гісторыі дзяржаўнага тэрору, які будзе адпавядаць па сваім статуце і ўзроўню маштабам трагедыі, і зрабіць яго метадычным і навуковым цэнтрам музейнай працы па гэтай тэме. Гісторыя тэрору і ГУЛАГа павінна быць прадстаўлена ва ўсіх гістарычных і краязнаўчых музеях краіны, так, як гэта робіцца, напрыклад, у дачыненні да іншай грандыёзнай гістарычнай трагедыі — Вялікай Айчыннай вайны.

**Неабходна**, нарэшце, узвесці ў Мінску агульнанацыянальны помнік загінулым, які бы быў пастаўлены дзяржавай і ад імя дзяржавы. Такі помнік нам абяцаюць вось ужо 22 гады — самы час выканаць абяцанне. Але гэтага мала: трэба, каб помнікі ахвярам тэрору ўсталёўвалі па ўсёй краіне.

У краіне павінны з'явіцца памятныя знакі і мемарыяльныя дошкі, якія адзначалі б месцы, звязаныя з інфраструктурай тэрору: захаваныя будынкі следчых і перасыльных турмаў, палітызалятараў, упраўленняў НКУС і інш.

**Неабходна** прыбраць з назваў вуліц і плошчаў, дый з назваў населеных пунктаў, імёны дзяржаўных дзеячаў — арганізатараў і актыўных удзельнікаў тэрору. Тапаніміка не можа больш заставацца зонай увекавечання памяці злачынцаў.

**Неабходна** дзяржаўная праграма падрыхтоўкі і выдання ва ўсіх абласцях Кніг памяці ахвяр палітычных рэпрэсій.

Тэрмінова неабходна распрацаваць і ажыццявіць агульнадзяржаўную ці нават міждзяржаўную праграму пошуку і мемарыялізацыі месцаў пахаванняў ахвяр тэрору. Гэта праблема не столькі адукацыйная і асветніцкая, колькі маральная. На тэрыторыі былога СССР, у тым ліку і БССР, — шматлікія сотні расстрэльных равоў і брацкіх магіл, дзе таемна закопвалі пакараных, тысячы лагерных і спецпасяленскіх могільнікаў.

Усё гэта спрыяла б аднаўленню памяці пра адну з найбуйнейшых гуманітарных катастроф XX стагоддзя і дапамагло б выпрацаваць устойлівы імунітэт да таталітарных стэрэатыпаў.

У асэнсаванні Вялікага Тэрору і, шырэй, усяго досведу савецкай гісторыі, мае патрэбу не толькі Беларусь і не толькі краіны, якія ўваходзілі ў СССР ці ў склад «сацыялістычнага лагера». У такім абмеркаванні маюць патрэбу ўсе краіны і народы, усё чалавецтва, бо падзеі Вялікага Тэрору наклалі адбітак не толькі на савецкую, але і на сусветную гісторыю. Курапаты, ГУЛАГ, Калыма, Трыццаць Сёмы — такія ж знакі XX стагоддзі, як Асвенцым і Хірасіма.

▸ КАНЦЭРТ

# МУЗЫЧНЫ ДЫЯРЫУШ ВІКТАРА ШАЛКЕВІЧА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**Прыхільнікаў творчасці барда Віктара Шалкевіча не спынілі ні дваццаціградусны мароз, ні тое, што яго канцэрт ладзіўся ў адным з самых аддаленых залаў — у Доме культуры імя Н.Ф. Шарко ГА БелТГ.**



Віктар Шалкевіч заўсёды рыхтуе для сваіх праграм нешта адметнае, такое, чаго нельга было пачуць ні ў мінулых праграмах артыста, ні на яго дысках.

Так здарылася і на гэтым канцэрце, які быў пабудаваны з трох частак, адна з якіх была прысвечана новым праектам барда, а таксама яго новым песням. Прэм'еры папярэднічала частка праграмы, складзеная з вядомых хітоў. З нарастаючым імпэтам гучалі такія шчырыя лірычныя споведзі барда, як песні «Такая доўгая зіма», «Месца», якую выканаўца прысвяціў роднай Гародні, «Маё каханне». Асабліва спадабалася слухачам вострасатырычная «Песня пра Zorro». Акрамя актуальнага зместу, у песні выкарыстаны элементы музыкі лаціна, што даволі яскрава расфарбавала музычнае палатно канцэрта. У гэтым заслуга не толькі аўтара музыкі, але і суправаджаючых яго інструменталістаў, якія стварылі непаўторную камерную атмасферу канцэрта: клавішніка Анатоля Кандыбы і гітарыста Дзяніса Брункевіча.

Канва канцэрта засведчыла, што ў творчасці Віктора Шалкевіча надышоў перыяд, калі аўтар звяртаецца да глыбокіх філасофскіх тэм, спрабуе знайсці адказ на пытанні, якія ўвесь час узнікаюць у сувязі са зменнямі ладу беларускага жыцця ў нашых неспрыяльных умовах. Гэтыя змены тычацца падачы старых і новых песень барда: Віктар адыходзіць ад гратэскнай тэатралізацыі і імкнецца выявіць у песні схаваны псіхалагічны падтэкст, акцэнтаваць на рэчах, на якія раней не звярталася ўвага.

З асаблівым нецярпеннем чакалі слухачы абяцаныя Віктарам Шалкевічам новыя кампазіцыі. Выканаўца заінтрыгаваў усіх паведамленнем пра новы этап у сваёй музычнай кар'еры. Але перад тым прагучалі некалькі твораў, якія толькі падкрэслілі скіраванасць барда да камернасці і філасофскіх абагульненняў. Першая з іх — «Танга старога ўдаўца» — разглядае праблему старасці. Створана песня ад імя старога, як страціў родных і, у пешую чаргу, спадарожніцу свайго жыцця. Атрымалася шчымлівая споведзь самотнага чалавека, які страціў сэнс існавання.

Каронная тэма Шалкевіча — сатырычныя кампазіцыі, якія выклікаюць у слухача адно толькі ўсмешкі і жаданне сказаць: «Маска, маска, я вас ведаю!» Таму слухачы не шкадавалі апладысментаў, калі гучала музычная замалёўка «Вёска Пагост, калгас «Свабода», сатыра на тэму міжнародных дачыненняў «Эла і Венесуэла». Былі ў Шалкевіча ў запасе і новыя творы на рэлігійную тэматыку, кшталту «Балады пра святых», якія працягнулі апакрыфічную тэматыку песень і балад Шалкевіча. Такіх, як «Святы Мікалай», «Ціхі анёл», «Балада аб Збаўцы» і інш.

Віктар Шалкевіч завяршае працу над музычным кабарэ «Карчма «Забава» для аднаго з беларускіх тэатраў. Выявілася, што ў гэтых творах барда гарманічна спалучаюцца не толькі кабарэтовыя мелодыі, але блатны шансон, беларуска-польска-габрэйскі фальклор на заходнебеларускі лад. Пад несціхаючыя апладысменты слухачоў прагучалі такія зонгі з новага кабарэ Шалкевіча, як загалоўная «Карчма Забава», «Песня камсамольцаў», а таксама гістарычная замалёўка з гарадзенскага жыцця «Голдвін і Мэйер едуць у Галівуд». Гэтыя творы выклікалі не толькі жывую зацікаўленасць слухачоў, але і іх жаданне хутчэй апынуцца на прэм'еры такога незвычайнага музычнага шоў, як кабарэ.

Як ужо не аднойчы адзначалася, канцэрты Шалкевіча — гэта своеасаблівыя прыклады арганічнага спалучэння музыкі, спеваў і размоўнага жанру. І гэтым разам Віктар не адступаўся ад сваіх традыцый і асыпаў слухачоў перлінамі спантаннага гумару, разнамоўнымі вылслоўямі, павучальнымі гісторыямі. Але гэтым разам бард выступіў у незвычайным амплуа — чытальніка сваіх апавяданняў з яшчэ неапублікаванай кнігі «Мястэчка G. і ваколіцы». Вельмі дарэчы прагучала ў выкананні аўтара апавяданне «Федар Мікалаевіч і сабакі», якое пераключыла ўвагу трохі стомленых слухачоў з музыкі да літаратуры. Зрэшты, большасць тэкстаў Шалкевіча — гэта высакаякасная паэзія, а яго кнігі, сярод якіх прыхільнікі, безумоўна, вылучаць і яго дэбютнае выданне «Requiem па непатрэбных рэчах», — захапляльнае і змястоўнае чытанне. Так і здарылася з і з апавяданнем, якое прагучала на гэтым канцэрце ва ўнісон з ужо вядомымі хітамі барда. Ад гэтага слухачы больш востра ўспрымалі чорны гумар «Цынічнага танга кастрацыя», гратэск і сатыру песні «Жлобская нацыя», сплін па страчаным часе ў «Сумнай песні пра змарнаванае лета», адчулі любоў да беларускай правінцыі ў шчымлівай «Песні пра Валожын».

▸ АБ'ЯВА

# ПАЭТЫЧНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ПАМЯЦІ МІХАСЯ СТРАЛЬЦОВА

**«Толькі паэт ці святы можа палівацъ асфальт і ўпэўнена чакаць, што лілеі ўзнагародзяць яго за працу».**
**Уільям Сомерсет Моэм**

**25–26 лютага ў Мінску адбудзецца міжнародны паэтычны фестываль**

## «ВЕРШЫ НА АСФАЛЬЦЕ»,

**прысвечаны 75-годдзю Міхася Стральцова**

**Арганізатары:** Беларускі ПЭН-Цэнтр, Саюз беларускіх пісьменнікаў, Шведскі саюз пісьменнікаў, Інстытут Гётэ ў Мінску.

**У межах фестывалю:** згадкі і чытанне Міхася Стральцова, выступы беларускіх і замежных паэтаў, чытанні паэтаў-перакладчыкаў, паэтычны слэм.

**Удзельнікі:** Солья Крапу (Фінляндыя/Швецыя), Дмытро Лазуткін (Украіна), Петэр Мільчак (Славакія), Мары Сілкеберг (Швецыя), Любоў Турбіна (Расія), Алесь Аркуш (Полацак/Беласток), Сяргей Балаханаў (Гомель), Дзмітрый Дзмітрыеў (Магілёў), Дар'я Ліс (Залессе), Тацяна Нядбай (Варшава), Сяргей Прылуцкі (Кіеў), Андрэй Адамовіч, Валянцін Акудовіч, Маргарыта Аляшкевіч, Міхал Анемпадыстаў, Ігар Бабкоў, Раіса Баравікова, Лявон Баршчэўскі, Алеся Башарымава, Генадзь Бураўкін, Вера Бурлак, Ася Волкава, Леанід Галубовіч, Адам Глобус, Аксана Данільчык, Леанід Дранько-Майсюк, Галіна Дубянецкая, Віктар Жыбуль, Каця Зыкава, Анатоль Івашчанка, Югася Каляда, Зміцер Колас, Ігар Кулікоў, Валерыя (Валярына) Кустава, Уладзь Лянкевіч, Кацярына Мацієўская, Алена Пятровіч, Барыс Пятровіч, Алесь Разанаў, Людміла Рублеўская, Антон Рудак, Віталь Рыжкоў, Міхась Скобла, Віктар Слінко, Аксана Спрынчан, Анка Упала, Юлія Цімафеева, Вольга Чайкоўская (Мінск).

**Праграма фестывалю:**

**25 лютага, субота: 15.00–18.00 —** згадкі Міхася Стральцова, чытанні беларускіх і замежных паэтаў — канферэнц-зала Інстытута Гётэ (вул. Веры Харужай, 25/3); **19.00–22.00 —** жаночы слэм — Галерэя Ў (пр. Незалежнасці, 37А)

**26 лютага, нядзеля: 15.00–18.00 —** чытанні беларускіх і замежных паэтаў, чытанні паэтаў-перакладчыкаў — канферэнц-зала Інстытута Гётэ (вул. Веры Харужай, 25/3).

▾ УВАГА

## АГУЛЬНАНАЦЫЯНАЛЬНАЯ ДЫКТОЎКА

**Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны запрашае ўсіх жадаючых прыняць удзел у 5-й Агульнанацыянальнай дыктоўцы, першы этап якой прымеркаваны да Міжнароднага дня роднай мовы і адбудзецца 21 лютага. Прапануем наступны тэкст для чытання на дыктоўцы.**

### РОДНАЯ МОВА

Максім ТАНК

*З легендаў і казак былых пакаленняў,*
*З калосся цяжкога жытоў і пшаніц,*
*З сузор'яў і сонечных цёплых праменняў,*
*З грымучага ззяння бурлівых крыніц.*
*З птушынага шчэбету, шуму дубровы,*
*І з гора, і з радасці, і з усяго*
*Таго, што лягло назаўсёды ў аснову*
*Святыні народа, бяссмерця яго, —*
*Ты вытканa, дзіўная родная мова.*
*Няма на зямлі таго шчасця і гора,*
*Якога б ты нам перадаць не магла.*
*Няма такіх нетраў, глыбокага мора*
*І гор, праз якія б ты не правяла*
*Мяне на радзіму, туды, дзе сягоння*
*Стаіць акрываўлены вораг з пятлёй*
*Над спаленай хатай, над родным загонам,*
*Над будучыняй і песняй маёй —*
*Над тым, што было і што век будзе вольным.*
*Народ пранясе цябе, родная мова,*
*Святлом незгасальным у сэрцы сваім*
*Праз цемру і годы змаганняў суровых.*
*Калі ж ападзе і развеецца дым*
*І нівы васкросшыя закаласяцца, —*
*Ізноў прашуміш ты вясновым дажджом,*
*Ізноў зазвініш ты у кожнай у хаце,*
*Цымбалам дасі іх сарэбраны гром*
*І вусны расквеціш усмешкай дзіцяці.*

**1943 г.**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

(замест прамовы на святкаванні дваццацігадовага юбілею ў Беларускім дзяржаўным тэатры 23 чэрвеня 1925 года)

Беларусь на сваім доўгім веку нямала чаго перажыла. Не раз і не два была арэнай крывавых змаганняў Захаду і Усходу за панаванне над падняволенымі народамі. Паншчыну перанесла на сваіх працавітых плячах. Але Беларусь яшчэ і іншую адыгрывала ў гісторыі ролю: праз яе абшары і народ ішлі калісьці, у той час вялікія і агульналюдскія, ідэалы навукі і ведаў...

Калі ж прыгледзімся ў сучасныя з'явы, то доля Беларусі тая самая, толькі на іншы манер: праз яе абшары і народ ізноў ідуць... вялікія агульначалавечыя ідэі... І, разумеецца, мусіць прыйсці той час, калі Беларусь будзе зноў арэнай вялікіх змаганняў. Трэба толькі цвёрда верыць, што верх возьме праўда, бо на свеце больш працоўных сумленных рук, як тых несумленных, што няволю сеюць.

Але што ні тварылася б на свеце, беларуская думка аб нацыянальнай і сацыяльнай волі як жыла, жыве, так і жыць будзе. Наша беларускае настаўніцтва, выхаванае і загартаванае, павінна і будзе сеяць гэтыя думкі сярод нашых дзяцей.

На змену старым барацьбітам за волю і долю людзей ідзе новая беларуская змена, ідзе наша моладзь, наш бунтарскі маладняк. Дык няхай жа жыве беларуская бунтарская песня змагання, вызвалення і свабоды!

**(Паводле Янкі Купалы)**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК:** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл.: (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА:**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл.: (+375 29) 651 21 12, (+375 17) 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 154

Падпісана да друку 17.02.2012. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.